*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ.*

# наша слова




№ 3 • ТРАВЕНЬ • 1990. Бюлетэнь Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Кошт 20 кап.

## СВЯТА СЛАВЯНСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І КУЛЬТУРЫ



Заслужаны мастак Балгарыі Тама Вырбанаў. «Святыя браты» (Кірыла і Мятодзій). 1985.

## З БАЛГАРСКАГА СШЫТКА

*А ў Радопах суніцы*
*завуць па-радопску «зуніцы» —*
*як і ў нас, толькі першая літара*
*трошкі званчэй.*
*Як і ў нас, тут вясёла бруяцца*
*лясныя крыніцы,*
*і ў дзятвы, як і ў нашай,*
*праменіцца сонца з вачэй.*

*Як і ў нас, тут паветра*
*сунічным прапахла настоем,*
*а яшчэ — баравою,*
*здаровай, смалістай сасной.*
*Як і ў нас, палавее*
*на доспеве жыта густое*
*і вясёлыя жаўранкі*
*путаюць вецер струной.*

*Ах, напэўна ж, усё —*
*і зямля тут, і неба, і сонца,*
*і ўсе гукі лясныя,*
*і водар, і фарбы наўсцяж —*
*мне таму і здаліся сваімі,*
*што роднае слоўца,*
*беларускае слоўца*
*я раптам пачуў у гасцях!*

*Ці ж не варта было*
*ў гэты край старажытны забрацца,*
*каб не толькі па сэрцах,*
*а нават па слове адным*
*распазнаць і адчуць*
*векавечнае кроўнае брацтва,*
*не адолець якога*
*нікому, ніколі, нічым!*

Ніл ГІЛЕВІЧ.

# ГЫМН РОДНАЙ МОВЕ

**А. СУМНЫ**

О мова родная мая!
Вяскова, проста, а святая —
Хацеў бы свету крыкнуць я,
Што сэрцам ўсёгды паўтараю;
Хвала табе! О церпяліва
За муку вечную тваю —
Дагэтуль ты ўсяму надзіва
Схавала моц вялікую...
Ня згінула... мерлі хацця
Прадзеды, дзеды і іх ўнукі —
Табой ж гаворыць іх дзіця
І зноў ты, мова, церпіш мукі...
Хвала табе! бо дні вякамі
Ішлі над гэным светам ўсім,
А ты трывала ўсцяж і з намі...
Хвала табе — табе і ім,
Хто здрады ў жыццейку ні знаў,
Ня гледзючы на хмары бед,
Хто ўсцяж табою стараваў,
Сцярпеўшы здзекаў пераслед.
Хвала табе! прайшло ўжо тое...
Хоць ня зусім, але мінецца:
Пачулі мы, што нам святое,
І да чаго сэрдэнка б'ецца...
Хвала табе! о дарагая!
О беларуска, проста мова!
Што сон магільны прарываеш,
Нясеш нам знак на жыцце нова!
Хвала табе! вяліку справу
Спраўляеш ты між нас сярод,
Адвечнай кормячы нас стравай,
Даеш салодкі жыцця мёд.
Хвала ж табе — на кожным мейсцы —
Па вёсках ўсіх ды гарадох,
Па Беларусі кожнай рэсцы
Гудзеў бы я, каб толькі мог!..
Хвала табе! — гудзеў бы ўсім
На ўсю Бацькоўшчыны зямліцу,
Каб толькі вось братом сплючым
Дапамагчы са сну збудзіцца...
Хвала табе, о родна мова.
Шапочуць лісця, рэчкі, зоры —
Гаворыць поле скрозь вяскова —
Грымяць лясы, прыгоркі, горы...
Хвала табе — ніхай ж нясецца
Па Беларусі ўсей шырокай...
Да сонейка ніхай ўздымецца
Да зоранак ў высі-высокай!..
Хвала табе ніхай жа будзе
У кожным сэрцы, ў кожнай грудзі!
І ад малога, й ад старога,
І ад міне, сына тваёга —
Хвала табе!..

«Беларус», 1914 г., № 52, 24 снежня.
А. Сумны (Алесь Гарун) — псеўданім Аляксандра Прушынскага.

# ЗВАРОТ

## удзельнікаў рэспубліканскай канферэнцыі Таварыства беларускай мовы і Міністэрства народнай адукацыі да народных дэпутатаў БССР

Шаноўныя дэпутаты! Сыны і дочкі беларускага народа! Людзі іншых нацыянальнасцяў, для каго Беларусь, дзе Вы жывяце, стала дарагой і роднай!

Народ выбраў Вас у свой вышэйшы орган улады, каб Вы вяршылі ўсе нашы справы, вырашалі праблемы нашага сённяшняга жыцця — вялікія і малыя. Каб Вы ў сваіх рашэннях кіраваліся праўдай і справядлівасцю, інтарэсамі свайго народа і яго будучыняй.

Будучыня — гэта людзі, народ, дзеці, гэта — наша зямля з усімі яе прыроднымі багаццямі, і гэта — мова, якая гучала і гучыць на нашай зямлі адвеку.

Што мы пакінем сваім дзецям, унукам, сваім нашчадкам? Гіганты-заводы, палацы культуры без культуры, спустошаную глебу і асушаныя балоты, ды яшчэ — чарнобыльскі пыл? Ці ўсё ж каласістыя нівы і сады ў квецені?

Каб наш народ жыў вечна, каб наш род не звёўся ніколі, мы павінны дбаць не толькі пра народную гаспадарку, але і пра культуру, пра мову народа, бо гэта тое, што перадаецца з пакалення ў пакаленне і што вызначае галоўную сутнасць кожнага народа і нацыі, тое, што вылучае нас сярод іншых і за што нас паважаюць у свеце.

Шаноўныя дэпутаты! Звяртаемся да Вас як да абраннікаў народа: дайце нашаму Закону аб дзяржаўнасці беларускай мовы крылы, дайце яму душу, каб ён ажывіў, абудзіў, узняў нашу нацыю, каб наш народ усвядоміў сябе роўным сярод роўных, незалежным сярод незалежных, каб цаніў і шанаваў сваю нацыянальную годнасць, сваю мову, традыцыі, культуру, як гэта робяць і шануюць народы-суседзі.

Дагэтуль у Вярхоўным Савеце БССР, у беларускім парламенце, гаварылі пераважна не па-беларуску. Удумайцеся толькі: як можна гаварыць з народам не на яго роднай мове? Як можна ад імя народа гаварыць не на яго роднай мове? І не дзе-небудзь за морам, у ААН, дзе пэўнымі рабочымі мовамі карыстаюцца па агульнай згодзе, а тут, на зямлі гэтага народа, у доме гэтага народа! Як мы дапусцілі такое? І ці можна болей такое цярпець?

Ад Францішка Скарыны да Францішка Багушэвіча, да Янкі Купалы і Якуба Коласа — шлях вялікі і цяжкі, але і плённы. Мы маем сёння беларускую дзяржаву. І ёсць усё, што трэба дзяржаве, не хапае толькі аднаго — рэальнага дзяржаўнага становішча нашай роднай беларускай мовы.

На Вас, шаноўныя дэпутаты, наша надзея: мы верым, што Вы зробіце ўсё, каб мова наша не ўмерла, а з моваю — і я творца — народ.

Мы верым, што і сёння лепшыя сыны дочкі народа не прададуць яе, а абароняць і дадуць ёй будучыню.

Мы верым, што ў Вас хопіць дзяржаўнай мудрасці, каб зрабіць Беларусь суверэннай дзяржавай не толькі на паперы, але і фактычна, каб яна вызначалася сярод іншых краін не толькі сваім Гербам, Гімнам, Сцягам, але і сваёю дзяржаўнаю мовою, сваім дзяржаўным аўтарытэтам.



Выступае міністр народнай адукацыі БССР М. Дзямчук. Фота А. Сасіноўскага.

*11—12 мая ў Доме літаратара праходзіла навукова-практычная канферэнцыя «Дзяржаўнасць беларускай мовы: праблемы і шляхі ажыццяўлення», падрыхтаваная Рэспубліканскай Радай Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны сумесна з Міністэрствам народнай адукацыі БССР. Мэта канферэнцыі — садзейнічаць камісіі Савета Міністраў БССР у распрацоўцы праграмы ажыццяўлення ў рэспубліцы Закона аб мовах.*

*У канферэнцыі бралі ўдзел пісьменнікі, вучоныя, работнікі народнай адукацыі, сябры ТБМ. Справаздача аб канферэнцыі будзе надрукавана ў чарговым нумары бюлетэня «Наша слова».*

# ПАСТАНОВА

## рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Дзяржаўнасць беларускай мовы: праблемы і шляхі ажыццяўлення»

Канферэнцыя выступае з ініцыятывай стварэння камітэту па арганізацыі і правядзенні сумеснага пасяджэння творчых саюзаў БССР, АН БССР, Міністэрства народнай адукацыі БССР, Міністэрства культуры БССР, Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны і іншых грамадска-культурных арганізацый і аб'яднанняў рэспублікі, а таксама Вярхоўнага Савета БССР, Савета Міністраў БССР, ЦК КПБ, прафсаюзных арганізацый з павесткай дня: «Беларусізацыя грамадска-палітычнага і духоўнага жыцця ў рэспубліцы».

Канферэнцыя падтрымлівае прапанову аргкамітэту Міжнароднай асацыяцыі беларусаў аб правядзенні ў 1990 г. з'езду беларускіх нацыянальна-культурных арганізацый, якія дзейнічаюць у БССР і за яе межамі. Месца правядзення з'езду — Мінск або Полацк.

Канферэнцыя выказвае падтрымку Міністру народнай адукацыі БССР у разгортванні беларусізацыі школ усіх тыпаў і спадзяецца, што гэта работа будзе паскорана і завершана ў мінімальныя тэрміны, вызначаныя Законам аб мовах Беларускай ССР.

Канферэнцыя звяртаецца да народных дэпутатаў СССР ад Беларусі, народных дэпутатаў БССР, народных дэпутатаў мясцовых Саветаў з прапановай ствараць на платформе ТБМ імя Францішка Скарыны раённыя, гарадскія, абласныя і саюзна-рэспубліканскі дэпутацкія клубы і настойліва дабівацца ажыццяўлення Закона аб мовах Беларускай ССР у мінімальныя тэрміны.

Улічваючы надзвычайную моўную сітуацыю ў Беларусі і стан беларускай мовы, якая знаходзіцца на мяжы знікнення з-за недальнабачнай і валюнтарысцкай нацыянальна-культурнай палітыкі рэспубліканскіх органаў улады ў апошнія дзесяцігоддзі, канферэнцыя лічыць, што Закон аб мовах Беларускай ССР мае вяршэнства над Законам аб мовах СССР, у прыватнасці, у раздзелах агульных палажэнняў аб статусе рускай мовы ў БССР не як афіцыйнай мовы, а як мовы міжнацыянальных зносін. Канферэнцыя заклікае народных дэпутатаў БССР прытрымлівацца ў заканадаўчай і кантрольнай дзейнасці тэзісу аб вяршэнстве Закона аб мовах Беларускай ССР перад аналагічным саюзным Законам.

Канферэнцыя лічыць, што артыкулы 6,7 Закона аб мовах СССР (аб свабодзе выбару бацькамі вучняў мовы навучання) не адпавядаюць высакародным задачам адраджэння і развіцця беларускай нацыянальнай школы ў БССР, і заклікае Вярхоўны Савет БССР, народных дэпутатаў БССР, а таксама Міністэрства народнай адукацыі рэспублікі дамагчыся тэрміновага адкрыцця беларускамоўных школ усіх тыпаў адпаведна (прапарцыянальна) нацыянальнаму складу насельніцтва Беларусі.

Канферэнцыя рашуча выказваецца за перавод на беларускую мову «Сельской газеты», «Физкультурника Белоруссии», абласных і раённых газет Брэстчыны і Гродзеншчыны, шматтыражак АН БССР і ўсіх ВНУ рэспублікі, а таксама за друкаванне новых перыядычных выданняў на беларускай мове (за выключэннем тых, якія маюць быць заснаваныя нацыянальна-культурнымі таварыствамі іншамоўнага насельніцтва рэспублікі).

Канферэнцыя звяртаецца да рэдакцый выданняў «Літаратура і мастацтва», «Наша слова», «Крыніца», «Маладосць», «Полымя», «Беларусь», «Нёман», «Вожык» і інш. з заклікам змяш-

Працяг на 4 ст.



У зале Дома літаратара. Фота А. Сасіноўскага.

Працяг. Пачатак на 3 ст.

чаць на сваіх старонках матэрыялы, якія б выкрывалі прыстасаванцаў, кар'ерыстаў, рэнегатаў, што дзеля асабістых выгод і бесклапотнага існавання здрадзілі роднай мове, пазбаўляючы яе грамадзянскіх правоў і ўжытку, спараджаючы з пакалення ў пакаленне ўсенародны духоўны Чарнобыль.

Канферэнцыя лічыць неабходным:

Распрацаваць канцэпцыю беларускай нацыянальнай школы. Як састаўная яе частка ў першачарговым парадку павінна быць распрацавана канцэпцыя літаратурнай адукацыі і, зыходзячы з яе, трэба скласці новыя навучальныя планы і праграмы па беларускай літаратуры. Праграмы нацыянальнай школы Беларусі павінны ствараццa на лепшых традыцыях беларускай культуры, на аснове народнай педагогікі, маралі і этыкі;

паскорыць стварэнне і ўвядзенне ў школах усіх тыпаў Беларусі навучальных праграм на беларускай мове «Літаратура народаў СССР»;

пашырыць магутнасці не менш як у 5—6 разоў і перадаць выдавецтва «Народная асвета» Міністэрству народнай адукацыі Беларускай ССР дзеля паскарэння выпуску падручнікаў, метадычнай літаратуры і перавыдання масавымі тыражамі папулярнай літаратуры гісторыка-культурнай накіраванасці;

стварыць у школах БССР усіх тыпаў спецыяльныя навучальныя курсы «Гісторыя Беларусі», «Геаграфія і экалогія Беларусі», а таксама сістэму факультатываў нацыянальна-культурнай накіраванасці: «Асновы народнай медыцыны», «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», «Этнаграфія Беларусі», «Ландшафты Беларусі», «Асновы біблейскай гісторыі» і інш.;

стварыць у рэспубліцы сетку гімназій з беларускай мовай навучання і выхавання (дзённых, нядзельных, вячэрніх);

аднавіць у першую чаргу выкладанне на беларускай мове і выхаванне на аснове нацыянальнай культуры, народнай педагогікі і маралі ў тых школах Беларусі, якія носяць імёны знакамітых людзей Бацькаўшчыны;

стварыць у Мінску Рэспубліканскі беларускамоўны ліцэй класічнага тыпу для дзяцей, якія маюць лінгвістычныя здольнасці і літаратурныя задаткі;

стварыць аўтарскія калектывы з мэтай падрыхтоўкі арыгінальных падручнікаў і дапаможнікаў на беларускай мове па ўсіх прадметах навучальнага цыклу школ Беларусі ўсіх тыпаў (акрамя прадметаў, якія складаюць нацыянальна-культурны комплекс іншамоўнага насельніцтва рэспублікі;

распрацаваць у 1990—1991 навучальным годзе сістэму перакваліфікацыі ўсіх настаўнікаў, выкладчыкаў, выхавацелей, адміністрацыйных і тэхнічных работнікаў школ усіх тыпаў Беларусі з улікам ведання беларускай мовы, а таксама асноў гісторыі і культуры. Прадугледзець сістэму маральнага і матэрыяльнага заахвочвання ўсіх тых работнікаў сістэмы народнай адукацыі, якія датэрмінова ў параўнанні з дзяржаўнай праграмай пераходзяць на беларускую мову ў прафесійнай і службовай дзейнасці.

Канферэнцыя лічыць немэтазгодным заключаць часовыя працоўныя пагадненні з настаўнікамі-пенсіянерамі і іншымі часовымі педагагічнымі работнікамі (студэнтамі-практыкантамі, старшымі піянерважатымі, выхавацелямі), якія, парушаючы Закон аб мовах Беларускай ССР, свядома ўхіляюцца ад выкладання і выхаваўчай дзейнасці на беларускай мове ў беларускамоўных школах;

Канферэнцыя лічыць недапушчальнымі нядбайныя адносіны да тэхнічнага і метадычнага забеспячэння навучальнага і выхаваўчага працэсу на беларускай мове ў беларускамоўных школах, беларускамоўных дзіцячых дашкольных установах, а таксама да выкладання беларускай мовы і літаратуры ў школах усіх тыпаў.

Канферэнцыя лічыць неабходным за кошт дзяржаўнага бюджэту (дзеля гэтага неабходна прадугледзець асобны артыкул яго расходаў) адкрыць у рэспубліцы і забяспечыць адукацыйнымі сістэмамі, камп'ютэрнай тэхнікай і іншым тэхнічным абсталяваннем і літаратурай, а таксама кваліфікаванымі кадрамі сетку бясплатных адукацыйных курсаў па беларускай мове, гісторыі і культуры для дарослых.

Канферэнцыя выказвае заклапочанасць у сувязі з тым, што Беларускае тэлебачанне не забяспечвае якаснага прыёму перадач па ўсёй рэспубліцы, а таксама трансляцыі на сумежныя з БССР раёны Літвы, Расіі, Украіны і Польшчы, у якіх жыве значная колькасць суайчыннікаў. Канферэнцыя патрабуе павялічыць колькасць эфірнага часу на беларускамоўнае радыёвяшчанне і трансляцыю, пераўёўшы ў сціслыя тэрміны работу Беларускага радыё і тэлебачання цалкам на беларускую мову (за выключэннем перадач, падрыхтаваных з удзелам нацыянальна-культурных таварыстваў іншамоўнага насельніцтва Беларусі).

Канферэнцыя выступае з прапановай заснаваць і выдаваць сіламі канфесій Беларусі рэспубліканскі рэлігійна-асветніцкі часопіс на беларускай мове.

Канферэнцыя абавязвае ўсе арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны разгарнуць і пашырыць работу па ажыццяўленні Закона аб мовах Беларускай ССР, а таксама прыняць удзел у складанні і рэалізацыі адпаведных рэгіянальных і ведамасных праграм.

Усім арганізацыям ТБМ імя Францішка Скарыны лічыць першачарговай задачай арганізацыю беларускамоўных школ і дзіцячых садоў, дзеля гэтага ў маі-чэрвені г.г. актывізаваць растлумачальна-прапагандысцкую работу з бацькамі першакласнікаў і настаўнікамі школ беларусі.

Рэгіянальным арганізацыям ТБМ імя Ф. Скарыны з новага навучальнага года рашуча ўзяцца за стварэнне і арганізацыю работы ў юнацкіх секцыях Таварыства, а таксама садзейнічаць пераходу на беларускую мову Палацаў і Дамоў піянераў, піянерскіх лагераў і іншых пазашкольных дзіцячых установаў.

Рэкамендаваць Радам ТБМ імя Ф. Скарыны рэгулярна даваць у сакратарыят Таварыства інфармацыю пра дзейнасць сваёй арганізацыі, а таксама весці фінансавую справаздачнасць.

Канферэнцыя звяртае ўвагу дзяржаўных органаў кіравання і планавання БССР на востры недахоп тэхнічных сродкаў, літаратуры, дакументаў і бланкаў у беларускамоўным справаводстве. Асаблівую заклапочанасць выклікае адсутнасць машынак з беларускім шрыфтам, камп'ютэрных сістэм і праграм на беларускай мове, а таксама адсутнасць кадраў для абслугоўвання беларускамоўных ЭВМ, для вядзення стэнаграфіі па-беларуску. Неабходна падрыхтаваць дапаможнік па справаводстве на беларускай і рускай мовах (з паралельнымі тэкстамі) і выдаць яго масавым тыражом.

Канферэнцыя выказвае заклапочанасць дзеяннямі праваахоўных органаў у г. Мінску, якія праследуюць за патрыятычную дзейнасць Юрыя Хадыку, сябра Мінскай гарадской Рады ТБМ імя Францішка Скарыны, навуковага супрацоўніка Інстытута фізікі АН БССР.



Удзельнікі канферэнцыі на адкрыцці Скарынаўскага мемарыяла ў Беларускім тэхналагічным інстытуце. Фота А. Сасіноўскага.

# У СКАРБНІЦУ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ

## УНЕСЕНА

Гаворка пойдзе пра тое, што зроблена супрацоўнікамі выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі за 22 гады яго існавання і чым могуць пакарыстацца тысячы і тысячы прыхільнікаў і ўдзельнікаў адраджэння роднай беларускай мовы, культуры і гістарычнай памяці на Белай Русі.

На кніжных паліцах сёння стаіць больш за 150 энцыклапедычных выданняў, і ўсе яны пра наш край, пра падзеі ў ім з даўніх часоў да нашых дзён, пра наш шматпакутны народ і яго духоўныя здабыткі на працягу многіх вякоў.

Пагартаем хоць бы першую дванаццацітомную Беларускую Савецкую Энцыклапедыю, выданне якой ужо само па сабе сведчыць пра высокі ўзровень навукі і духоўнай культуры народа. Нездарма ж кажуць, што нацыя можа лічыць сябе цывілізаванай, калі мае герб, сцяг і энцыклапедыю. Далёка не ўсе краіны маюць свае нацыянальныя энцыклапедыі. Ва універсальнай 12-томнай БелСЭ каля 40 тысяч артыкулаў, больш за 35 працэнтаў з іх пра Беларусь, беларусаў, пра іх сувязі з іншымі краінамі і народамі.

Кароткая Беларуская Савецкая Энцыклапедыя ў 5-ці тамах, якая выйшла на беларускай і рускай мовах, знаёміць чытача з падзеямі і фактамі, што мелі месца на Беларусі. Толькі 5-ы том гэтага выдання змяшчае каля 5 тысяч біяграфій дзеячаў навукі і культуры, мастацтва, герояў многіх войнаў і паўстанняў, што пракаціліся па нашай зямлі. Пішу пра гэта, бо ведаю, што знаёмства з лепшымі сынамі Айчыны будзе пасяляць у нашых душах пачуцці годнасці, упэўненасці і добрага, выпакутаванага гонару за свой народ, за яго слаўную гісторыю.

Васьмітомнае выданне Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі ўвядзе вас у сапраўдны храм, створаны творчым геніем народа. Пяцітомная ж Энцыклапедыя Літаратуры і Мастацтва Беларусі пераканае вас у тым, што самабытная культура беларуса створана ім самім, што сцвярджэнні пра яе несамастойнасць, правінцыяльнасць, недаразвітасць — злы паклёп на цэлы народ. Сёння, калі на нашу зямлю прыйшло Адраджэнне, пра гэта трэба ведаць і памятаць. Ёсць яшчэ і сёння «прарабы», што спрабуюць ушыць нас у дурні. Не выйдзе, панове!

Не пашкодзіць знаёмства і з пяцітомнай Энцыклапедыяй Прыроды Беларусі, у якой нашым вучоным удалося стварыць вобраз зямлі беларускай з усім яе хараством і багаццем, якія сёння трапілі пад пагрозу знішчэння. І можа таму Энцыклапедыю Прыроды арганічна дапаўняе наша жахлівая Чырвоная кніга.

А зараз колькі слоў пра нашы выданні, якія непасрэдна тычацца нашай роднай мовы, яе культуры, старажытнасці і самавітасці. У першую чаргу гэта «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» ў шасці тамах, які можна параўнаць толькі з самай дарагой скарбніцай, што належыць усяму народу, сусветнай культуры. Да гэтага выдання прымыкаюць Руска-беларускі і Беларуска-рускі слоўнікі, якія выйшлі з друку.

Вучоныя рэспублікі і мы, выдаўцы, ганарымся энцыклапедычнымі даведнікамі «Янка Купала», «Францыск Скарына і яго час», «Слоўнік беларускай мовы» І. І. Насовіча (факсімільнае выданне), «Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 года» — помнік беларускай мовы, пісьменства, юрыдычнай думкі феадальнай эпохі. Кнігі гэтыя пра нашых геніяў, пра нашу годнасць, пра нашу дзяржаўнасць, пра нашу мову і яе высокую культуру сярод самых высокіх культур свету. Да гэтай серыі можна далучыць і кнігу пра кнігі. Маю на ўвазе даведнік «Кніга Беларусі», створаны намі разам з Дзяржаўнай бібліятэкай імя У. І. Леніна. Яна дае чытачу поўнае ўяўленне пра друкарскую і выдавецкую культуру на Беларусі ад старажытных часоў да XX стагоддзя. Толькі што выйшаў з друку энцыклапедычны даведнік «Этнаграфія Беларусі». Характарызаваць гэту кнігу не буду, яе трэба пагартаць кожнаму.

## УНОСІЦЦА

На рэдактарскіх сталах многія цікавыя энцыклапедыі па самых розных галінах ведаў. Я ж назаву толькі тыя, што маюць непасрэдныя адносіны да беларускай мовы, літаратуры і гісторыі. У першую чаргу гэта серыйнае выданне англа-, нямецка-, французска-, лацінска-, іспанска-беларуска-рускіх слоўнікаў. Два першыя слоўнікі ўжо выйшлі з друку. І гэта толькі пачатак асваення цэлага кантынента моўнай культуры. Таго кантынента, з якога беларуская мова рушыць у многія краіны свету і знойдзе свайго прыхільніка як сярод замежных даследчыкаў, так, і можа ў першую чаргу, сярод нашых суайчыннікаў за мяжой.

На друкарскім варштаце факсімільнае выданне «Бібліі Скарыны». Два яе тамы мяркуем выдаць сёлета да 500-годдзя Асветніка. Лічым, што гэта будзе важнай падзеяй у культурным жыцці не толькі беларусаў, але і ўсіх славян. Скарынава Біблія пераканае многіх абывацеляў і сучасных мяшчан у тым, што беларуская мова — гэта «не испорченный и исковерканный русский язык», а самастойная мова старажытнага народа, што мае сваю будучыню.

Пра многае раскажуць чытачу энцыклапедыі «Архітэктура Беларусі» і «Археалогія Беларусі».

Выдавецтва актыўна працуе над 120-томнай серыяй гісторыка-дакументальных хронік «Памяць». Кнігі гэтай серыі пра Шумілінскі, Талачынскі, Бярозаўскі, Ляхавіцкі раёны ўжо выйшлі. Пра Быхаўскі выйдзе днямі, пра Бешанковіцкі — здадзена ў набор, пра Лёзненскі — завершана рэдагаванне, пра Гродзенскі і Пружанскі сельскі раёны — на рэдактарскіх сталах.

Асноўная ідэя і задача гэтага незвычайнага выдання — азнаёміць чытача з гістарычным мінулым яго роднага краю, яго малой радзімы, паказаць яго працоўны і баявы подзвіг з часоў глыбокай мінуўшчыны да нашых дзён, увекавечыць памяць пра ўсіх палеглых — ад старога да малога. Чытачы назвалі гэтыя кнігі эмацыянальнымі энцыклапедыямі. Гісторыка - дакументальныя хронікі, насычаныя дакументамі і фактамі, сапраўды выклікаюць якраз тыя пачуцці, што сведчаць пра абуджэнне нашай памяці, нашай гістарычнай годнасці.

## БУДЗЕ ЎНЕСЕНА

Планы вялікія, але, як нам здаецца, рэальныя. Прыступілі да падрыхтоўкі шматтомнай Энцыклапедыі Гісторыі Беларусі. Лічым, што прыйшоў той час, калі такое выданне можна зрабіць і поўным, і праўдзівым. Распрацоўваецца аднатомнік «Мысліцелі Беларусі». У слоўнік увайшло больш за 450 мысліцеляў і асветнікаў Беларусі — ад Кірылы Тураўскага да філосафаў XVIII стагоддзя ўключна.

Мяркуем выдаць факсімільна 7-ы том «Живописной России», прысвечаны беларускаму краю. Кніга гэта нясе найбагацейшыя звесткі пра гісторыю, культуру, побыт, фальклор Беларусі. Ёсць задумы ў 1992 годзе выдаць факсімільна Скарынаву «Малую падарожную кніжку», а да 1995 г.— «Апостала». Гэта юбілейныя даты выданняў. Не пашкодзіла б выдаць і Генеалогію Беларусі, бо ўсякая культурная нацыя павінна мець свой поўны радавод. Наш жа народ сваім радаводам мог бы ганарыцца з поўным на тое правам. Шукаем вучоных-энтузіястаў, якія б падрыхтавалі да факсімільнага ўзнаўлення беларускія летапісы ў адаптаваным перакладзе на сучасную беларускую мову. Калі ж дасць бог розуму і добры час, недзе ў не самай далёкай перспектыве яшчэ гэтага стагоддзя варта было б прыступіць да сістэматызацыі і выдання «Літоўскай метрыкі» — гэтай асноўнай сведкі нашай дзяржаўнасці, годнасці нашай мовы і старажытнасці нашай культуры. А «Метрыка» наша — скарб невычарпальны — 360 тамоў летапісных запісаў, прывілеяў, законаў і іншых дзяржаўных і прыватных дакументаў. Толькі прачытаўшы іх, мы будзем ведаць сваю гісторыю, спазнаем сябе, вызначым сваё месца ў вялікім свеце розных дзяржаваў і культур.

*Алесь* **ПЕТРАШКЕВІЧ**,
**намеснік галоўнага рэдактара БелСЭ.**

# «ПРАЦЭС ЗАЙШОЎ ВЕЛЬМІ ДАЛЁКА»

*У лютым 1968 года сакратарыят праўлення Саюза пісьменнікаў БССР накіраваў пісьмо на адрас першага сакратара ЦК КПБ Машэрава П. М. і старшыні Савета Міністраў БССР Кісялёва Ц. Я., у якім, падняўшы пытанне аб незаконным наступе фінансавых органаў рэспублікі на аўтарскія правы беларускіх пісьменнікаў, фактычна павялі размову пра стан выдання і распаўсюджвання беларускай мастацкай літаратуры і шырэй — пра лёс нашай мовы і культуры наогул. Гэтым і тлумачыцца рашэнне рэдкалегіі апублікаваць згаданы дакумент на старонках бюлетэня (з пэўнымі скарачэннямі таго, што на сёння страціла сваю актуальнасць). Па аўтарытэтным сведчанні Янкі Брыля, падрыхтаваць тэкст пісьма было даручана сакратару праўлення Івану Мележу. Такім чынам, пісьмо можна разглядаць як публікацыю з творчай спадчыны І. П. Мележа.*

*РЭДКАЛЕГІЯ.*

За апошнія дзесяць гадоў у адносінах выдавецтва з пісьменнікамі адбыліся змены, якія парушылі ранейшыя, нармальныя ўзаемадачыненні паміж пісьменнікамі і выдавецтвамі. Змены гэтыя адбыліся пад націскам фінансавых органаў рэспублкі і з'яўляюцца аднабаковымі, выгаднымі толькі выдавецтву, несправядлівымі ў адносінах да пісьменнікаў.

Гэтыя пытанні неаднойчы ўздымаліся пісьменнікамі на розных сходах, і мы лічым сваім абавязкам паставіць іх перад ЦК Кампартыі Беларусі і Саветам Міністраў БССР.

(...) З меркаванняў фінансавых прыбыткаў, якія патрабуюць фінорганы рэспублікі, выдавецтвы зацікаўлены ў выданні кніг вялікімі тыражамі. Кнігі на беларускай мове выходзяць тыражамі, адносна невялікімі і выдавецтвам выгадней друкаваць кнігі ў перакладзе на рускую мову, якія можна выдаваць тыражамі ў дзесяткі разоў большымі. Спачатку выдавецтва захапілася выпускам дэтэктыўнай і экзатычнай літаратуры на рускай мове. Так, вялізнымі тыражамі былі выданы «Консуэло» Жорж Санд (у 2-х тамах), «Тры мушкетера» і многія іншыя.

Пазней з боку ЦК КПБ было дадзена ўказанне спыніць растрату паперы і сродкаў на выпуск такіх камерцыйных выданняў.

Тады быў знойдзены іншы «выхад»: асабліва выдавецтва «Беларусь» пачало друкаваць у перакладзе кнігі беларускіх аўтараў. Спачатку пераклады гэтыя рабіліся са строгім адборам і з улікам інтарэсаў арыгінальнай літаратуры — невялікімі тыражамі — ад 10 да 25 тыс. экз. Пазней выдавецтва дабілася павелічэння разавага тыража масавага выдання на рускай мове да памеру тыражоў усесаюзных масавых выданняў — 100 тыс. экз. З таго часу кнігі беларускіх аўтараў у перакладзе пачалі выходзіць навалам, велізарнымі — у маштабах рэспублікі — тыражамі.

Склалася такая ненармальная практыка, калі кнігі беларускіх пісьменнікаў у беларускім выдавецтве выдаюцца галоўным чынам у перакладзе; тыражы перакладаў перавышаюць арыгіналы, як правіла, у 10 і больш разоў. Вось факты: «Сэрца на далоні» — у арыгінале 19 тыс. экз.— у перакладзе 300 тыс. экз., «Людзі на балоце» — 20 тыс.— 170 тыс. экз., «Сасна пры дарозе» — 6 тыс. — 100 тыс. экз.

Гэтыя прыклады можна прадоўжыць. Як правіла, каля палавіны ці больш тыража астаецца ў магазінах рэспублікі. У выніку, чытачы Беларусі чым далей, тым больш вымушаны знаёміцца з творамі беларускіх пісьменнікаў па перакладах! Нядзіўна, што многія магазіны Беларусі і кіёскі завалены рэспубліканскімі выданнямі беларускіх твораў у перакладзе! Ненармальнасць такога кірунку ў рабоце выдавецтва становіцца асабліва відавочнай, калі ўлічыць той факт, што амаль усё лепшае з беларускай літаратуры выпускаецца ў перакладзе выдавецтвамі Масквы і Ленінграда, якія друкуюць беларускія кнігі мнагатысячнымі тыражамі і фактычна самі спраўляюцца з задачай — знаёміць усесаюзнага чытача з лепшымі творамі беларускай літаратуры.

З мінулага года з тымі ж чыста камерцыйнымі меркаваннямі выдавецтва «Беларусь» пачало выданне ўжо не асобных кніг, а цэлай серыі «Беларускі раман» у перакладзе. Гэта пачынанне сустрэла рашучае пярэчанне ў Саюзе пісьменнікаў; на Пленуме СП БССР было выказана агульнае пажаданне, каб такая серыя выйшла ў арыгінале, або хоць на дзвюх мовах, бо ніколі падобнага выдання на беларускай мове ў нас не было; выданне такой серыі было б, гаварылася, добрым падарункам да 50-годдзя Кастрычніка. Тым больш, што многія раманы беларускіх пісьменнікаў ужо выдаваліся ў розных серыях у перакладзе ў Маскве. Нягледзячы на гэта, выдавецтва, з блаславення Камітэта па друку, выдае цэлую серыю ў перакладзе і зноў велізарнымі тыражамі. Гэтым ненармальныя суадносіны між арыгінальнымі і перакладнымі выданнямі павялічваюцца.

Па плану 1967 года выдавецтва выдала ў арыгінале 192 тысячы экземпляраў кніг прозы, а ў перакладзе — толькі па раздзелу мастацкай прозы — 1 млн. 400 тысяч экземпляраў кніг — амаль у 8 разоў больш! А калі дадаць да гэтага 1 млн. 125 тыс. экз. кніг беларускіх дзіцячых пісьменнікаў у перакладзе, то неадпаведнасць гэта яшчэ павялічваецца.

Кіруючыся камерцыйнымі разлікамі, выдавецтва пачало перакладаць і выдаваць у перакладзе стотысячнымі тыражамі кнігі без належнага адбору, у тым ліку і творы, якія былі падвергнуты крытыцы ў друку за нізкую мастацкую вартасць.

Нам здаецца, што неабходна ўстанаўліваць больш строгі кантроль над адборам кніг для перакладаў, а таксама кантроль за тым, каб кнігі ў перакладах не асядалі ў магазінах рэспублікі, а ішлі да ўсесаюзнага чытача. З гэтай мэтай мы лічым таксама карысным разавы масавы тыраж перакладных выданняў знізіць да ранейшага ўзроўню, 25—50 тысяч экз., што спрыяла б эканоміі паперы, неабходнай для выдання арыгінальнай літаратуры.

З фінансавых жа меркаванняў сістэматычна, з году ў год скарачаюцца пераклады з моў народаў СССР на беларускую мову. На беларускую мову не перакладаюцца нават лепшыя класічныя творы рускай літаратуры, а таксама другіх літаратур. Нам сорамна глядзець у вочы сваім таварышам з другіх рэспублік, у такім неаплатным даўгу мы перад імі. Тут камерцыя відна так непрыгожа, што набывае непажаданы палітычны характар.

Мы не выдалі нават твораў братніх літаратур, удастоеных Ленінскай прэміі. А тое, што выдаецца, выдаецца ў такім мізэрным аб'ёме, што выглядае толькі фармальнасцю — абы адчапіцца.

Вельмі-вельмі мала выдалі мы, напрыклад, з літаратуры братняй Украіны, якая заўсёды столькі ўвагі ўдзяляе культуры беларускага народа. Як далёка зайшло камерцыйнае захапленне, можна меркаваць з таго, што ў 1967 г. выдана толькі 4 кнігі пісьменнікаў усіх сацыялістычных краін. Красамоўна сведчыць пра лінію выдавецтва параўнанне: кніг сваіх пісьменнікаў у перакладзе на рускую мову выдадзена не мала-не многа ў 40 разоў больш, чым пісьменнікаў усіх братніх краін і рэспублік на беларускую мову!

Толькі няўвагай да галоўных задач у выдавецкай справе і інтарэсаў развіцця лі-

Працяг на 6 ст.

## ПРАВЫ РОДНАЕ МОВЫ

Працяг. Пачатак на 5 ст.

таратуры можна вытлумачыць той факт, што ў той час, як выдавецтва абмяжоўвае выданне многіх і многіх твораў беларускай літаратуры, якія яно павінна выдаваць у першую чаргу, як адзінае ў Савецкім Саюзе выдавецтва мастацкай беларускай літаратуры, яно ў той жа час са здзіўляючай шчодрасцю выдае і перавыдае кнігі, якія выдаваць не абавязана. Да юбілею Багдановіча выдавецтва «расшчодрылася» выпусціць выбранае вялікага паэта памерам у 6 друк. арк. Дасюль няма добрага выдання беларускага фальклору — скарбу нашага народа, а ўжо шасцю выданнямі выдана «біблія» ў 40 аркушаў — «Кройка і шитье» — апошняе выданне тыражом у 200 тыс. экз.! З кожным годам аб'ём такіх фінансавых выданняў для прыбытку ўсё расце. У 1967 годзе выдавецтва «Беларусь» выпусціла раманы А. Фадзеева «Молодая гвардия» тыражом 250 тысяч экз. і М. Астроўскага «Как закалялась сталь» тыражом 350 тысяч экз., выдаткаваўшы на гэтыя фінансавыя выданні 419 тон паперы, амаль столькі, колькі на ўсе 107 назваў арыгінальнай мастацкай беларускай літаратуры (502 тоны), уключаючы зборы твораў і пераклады з усіх моў. І гэта пры тым, што фонды паперы абмежаваныя і што паперы часта не хапае для вельмі патрэбных чытачам рэспублікі кніг нашых аўтараў. (...)

Асноўная прычына такога становішча ў тым, што аб рабоце выдавецтва апошнія гады мяркуюць па фінансавых выніках. Выкананне і перавыкананне фінплану, незалежна да таго, якімі маральнымі стратамі дасягаецца гэтае перавыкананне, стала галоўным крытэрыем у ацэнцы выдавецкай дзейнасці.

Год ад года фінансавыя органы патрабуюць ад выдавецтва немагчымага: усё новага і новага павышэння прыбытку, які, як відаць з вышэй адзначаных прыкладаў, дасягаецца выключна тым, што неабгрунтавана павышаюцца тыражы і колькасць перакладных выданняў, скарачаецца да мінімуму працэнт у агульным плане арыгінальных беларускіх выданняў, усё больш беззаконна зніжаецца аплата працы пісьменнікаў.

Гэты працэс зайшоў вельмі далёка, ён прывёў да ненармальных узаемаадносін выдавецтва з пісьменнікамі Беларусі. Ён з'яўляецца прычынай многіх крыўдаў і скаргаў пісьменнікаў, выклікае непажаданыя настроі ў пісьменніцкай арганізацыі.

Такое ненармальнае становішча, на нашу думку, не павінна працягвацца. Сакратарыят Саюза пісьменнікаў Беларусі просіць разгледзець нашы заўвагі, прыняць захады, каб становішча ў выдавецтве рэспублікі і адносіны выдавецтваў з Саюзам пісьменнікаў БССР былі нармальнымі, выключалі якую б ні было несправядлівасць з боку выдавецтваў і нездавальненне з боку пісьменнікаў.

На V з'ездзе пісьменнікаў Беларусі, на шматлікіх Пленумах, пісьменніцкіх і партыйных сходах многа разоў настойліва ўздымалася пытанне аб стварэнні самастойнага выдавецтва мастацкай літаратуры ў рэспубліцы, выдзеліўшы для гэтай мэты рэдакцыі мастацкай і дзіцячай літаратуры і рэдакцыю перавыданняў і перакладаў Дзяржаўнага выдавецтва «Беларусь». Такія выдавецтвы ёсць ужо ў радзе брацкіх рэспублік — Узбекскай, Грузінскай, Эстонскай і інш. На Украіне такіх выдавецтваў некалькі.

Пісьменніцкая арганізацыя за пасляваенныя гады вырасла з 40 чалавек да 260, у нас многа здольнай творчай моладзі, якая будзе папаўняць рады Саюза пісьменнікаў. Ужо сёння выдавецтва «Беларусь» не ў стане справіцца з задачай выдання мастацкай літаратуры належным чынам: рукапісы новых твораў, зборы твораў старэйшых пісьменнікаў, рукапісы пачынаючых і маладых пісьменнікаў многімі месяцамі, а нярэдка і гадамі ляжаць у выдавецкіх шафах, недаравальна доўга чакаюць сустрэчы з чытачом.

Сакратарыят Праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, выказваючы гарачае жаданне ўсёй пісьменніцкай арганізацыі, лічыць, што стварэнне ў рэспубліцы выдавецтва мастацкай літаратуры спрыяла б ліквідацыі многіх з тых ненармальнасцей, якія былі адзначаны вышэй, справе паспяховага развіцця савецкай беларускай літаратуры.

Сакратарыят Праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі: Максім ТАНК, Янка БРЫЛЬ, Іван МЕЛЕЖ, Пімен ПАНЧАНКА, Мікола ТКАЧОЎ, Іван ШАМЯКІН, сакратар партарганізацыі Саюза пісьменнікаў БССР Аляксей КУЛАКОЎСКІ.

15 лютага 1968 г.

## ТРАВЕНЬ

Нашы продкі пакінулі нам трывалыя доказы іх паэтычнага бачання свету, а таксама іх таленту да стварэння слоў-назваў. Ці не самыя трапныя з іх — назвы месяцаў.

Адкрасаваў красавік і яго замяніў месяц зялёнай травы — травень. І хоць гэтую назву пятага месяца, вядомую са старадаўніх летапісаў, падтрымала і зацвердзіла Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, яна амаль не выкарыстоўваецца. Апошні месяц вясны ўсё яшчэ называюць у нас маем, а гэтае слова мае ў беларусаў зусім іншае значэнне.

У маёй роднай вёсцы Пашкоўцы (Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобл.) пасля вайны некалькі гадоў «адпраўлялі маёву» — так называлі штодзённыя маленні ўвечары на працягу ўсяго пятага месяца. На іх збіраліся вечарамі ў якой-небудзь адной хаце, покуць якой была адпаведна падрыхтавана да рытуалу: стаяў засланы белым ільняным абрусам стол, на якім перад абразом Маці Божай запальвалі свечкі. Цікавым падаецца мне аздабленне гэтага кутка хаты. Там заўсёды стаялі ў гладышах з вадой невысокія бярэзінкі.

Калісь усюды на Беларусі такімі бярэзінкамі, іх вецем, часам кляновымі галінкамі, упрыгожвалі пад сёмуху хаты. І называлі гэтую зеляніну «маем». На Віцебшчыне, напрыклад, бярэзінкі прыносілі не толькі ў хаты. «Май» ставілі і ў агародзе, на градах, каб лепш расла ярына.

Беларусы, як бачым, захавалі амаль да нашых дзён надта старадаўнюю раслінную магію, а таксама і культ багіні Маі, які, відаць, быў пашыраны яшчэ ў часы так званай індаеўрапейскай супольнасці. У старажытнай індыйскай філасофіі Мая — прамаці Сусвету, што адпавядае нашаму «маці-зямля». Гэтага культу не змагла адолець нават каталіцкая рэлігія, а таму «схавала» яго, «закрыла» ўшанаваннем іншай маці — Маці Божай, але час, калі адбываліся ахвяраванні, вясновы час, пакінула той самы.

Багіня Мая ўшаноўвалася і ў Старажытным Рыме. І ў гонар яе там быў названы месяц, таму гэтая невыпадковая назва так моцна трымаецца. Ды калі іншыя народы разам з юліянскім календаром запазычылі і назву для апошняга веснавога месяца, нашы продкі не замянілі сваю, ранейшую — травень, ці то з-за таго, што лічылі яе трапнейшай, ці каб не блытаць май-месяц і «май» — ушанаванне Маці-Зямлі, ахвяраванні ў яе гонар.

Пакінем жа і мы слова май да запатрабавання. Яно спатрэбіцца, калі мы зноў пойдзем у лес, але не з сякерамі, а з рыдлёўкамі, і выкапаем там дрэўцы і пасадзім «май» каля нашых хатаў, дамоў, каб шчодрай была наша Маці-Зямля.

Здзіслаў СІЦЬКО.

*Уладзімір ЛАМЕКА*




На пабаюся быць банальным, пачаўшы гаворку аб роднай мове з любові — першага слова творцы. Яна — крыніца і валадарка ўсяго зямнога, але на ўсім яе шляху кветкі і кроў, перашкоды і выпрабаванні. Жыццёвая дарога беларускага народа пазначана, але не ўслана кветкамі, на жаль, вельмі многа было на ёй крыві...

Карані беларускай гісторыі, культуры і мовы трэба шукаць у Кіеўскай Русі — маці трох усходнеславянскіх народаў-братоў, рускіх, украінцаў, беларусаў. Беларусы маюць права лічыць сваімі гэтак жа, як і рускія або ўкраінцы, такія помнікі мастацкага пісьменства, як «Аповесць мінулых часоў», «Слова аб палку Ігаравым», прапаведзі мітрапаліта Іларыёна, Клімента Смаляціча і інш. А ці ўсе, дакладней, ці многія з нас ведаюць сёння аб асветніцкай дзейнасці Ефрасінні Полацкай, ахвярнасці гэтай жанчыны? Ці ўсім вядомы ўзоры красамоўства Кірылы Тураўскага, які не меў сабе роўных сярод аўтараў-сучаснікаў, у сувязі з чым яго называлі «другім Златавустам»? Гэта ж выхадцы з беларускай зямлі, нашы далёкія продкі, таму вытокі роднай мовы — нашай душы — давайце будзем шукаць у іх. Давайце помніць аб сваіх першых кветках, берагчы з іх насенне, каб былі добрымі сённяшнія і наступныя ўсходы.

Як вядома з гісторыі, працэс утварэння беларускай народнасці, а непасрэдна і беларускай мовы, адбываўся ў межах Вялікага княства Літоўскага ў XIII—XIV ст., пасля чаго старажытнабеларуская культура і мова даволі доўга і паспяхова, амаль да XVII ст., развіваліся і ўзбагачаліся. Росквіт старажытнабеларускай мовы, перш за ўсё, быў абумоўлены выкарыстаннем яе ў якасці адзінай дзяржаўнай на ўсёй тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. Наколькі мова нашых продкаў была магутным фактарам грамадскага жыцця і культуры ў гэтай дзяржаве, сведчаць такія помнікі дзелавой пісьменнасці, як Першы, Другі і Трэці статуты Вялікага княства Літоўскага, а таксама каля 600 кніг Літоўскай метрыкі. І зноў жа: як мала ведаюць сёння многія беларусы пра перыяд іх гісторыі ў Вялікім княстве Літоўскім, як доўга, на працягу многіх дзесяцігоддзяў, вучылі нас на аснове штучнага міфа аб утварэнні гэтай дзяржавы ў XIII ст. шляхам заваявання беларускіх зямель літоўцамі. І толькі цяпер пазнаём мы, як бы ачнуўшыся пасля невыносна цяжкога сну, гістарычную праўду з прац М. Ермаловіча, А. Грыцкевіча, Л. Лыча, М. Ткачова і інш. І мала хто ставіў раней пад сумненне тое, што пісалася ў падручніках; вучылі ж: Літоўскае — значыць яго стварылі літоўцы, а калі яно ўключала сучасныя беларускія землі — значыць гэтыя землі былі заваяваны, падпарадкаваны ваеннай сілай. Ну а старажытнабеларуская мова была дзяржаўнай — «зразумела»: пісьменнасць у літоўцаў узнікла толькі ў сярэдзіне XVI ст., вось і вымушаны яны былі карыстацца мовай паднявольнага народа. Дарэчы, важная дэталь: беларуская пісьменнасць зарадзілася разам з рускай і ўкраінскай амаль на шэсць стагоддзяў раней за літоўскую, будзем лічыць, у пачатку XI ст. Амаль на шэсць стагоддзяў багацейшая беларуская пісьмовая культура за літоўскую! Аднак параўнаем, як шануюць сваю мову і ганарацца ёю літоўцы і як шануецца беларуская мова, ды не толькі яна, у нашай рэспубліцы.

Сёння мы нарэшце адкрылі для сябе, што Вялікае княства Літоўскае такое ж літоўскае, як і беларускае, бо этнічны тэрмін Літва перайшоў на сучасныя літоўскія землі якраз з беларускіх. Праўда, беларусамі нас пачалі называць якраз у складзе Вялікага княства Літоўскага, назва «Белая Русь» пачала замацоўвацца на нашых спрадвечных землях прыкладна з XV стагоддзя. Існуе некалькі гіпотэз наконт яе паходжання, і хоць на кожную з іх мы глядзім як на вынік чыіхсьці фантазій, у гэтых фантазіях бачым, аднак, і праўду, якая характарызуе нас як народ. У гэтыя гіпотэзы просяцца словы чысты, сумленны як сінонімы да азначэння белы. Успомнім Ф. Багушэвіча: «Спрадвеку, як наша зямелька з Літвой злучылася, як і з Польшчай з'ядналася дабравольна, дык усе яе «Беларусіяй» звалі, і недарма ж гэта! Не вялікая, не малая, не чырвоная, не чорная яна была, а белая, чыстая: нікога не біла, не падбівала, толькі баранілася». Магчыма, гэтыя словы меў на ўвазе наш сучасны беларускі паэт Янка Сіпакоў, пішучы:

Як радасна, мой дружа, разумець,
Што наш народ не пагражаў нікому,
Не нападаў, не гнаў нікога з дому
І ў дом чужы не нёс ніколі смерць...
Зямля і воля мараю былі.
І на вайне ён спавядаўся полю,
Як птушку, грэў заўжды пад сэрцам волю,
Каб зноў араць і сеяць на зямлі.

Аралі і сеялі беларусы добра, плённа. Даволі ўспомніць Ф. Скарыну... На 50 гадоў раней за Фёдарава распачаў ён друк на старажытнабеларускай мове — адзін з першых ва ўсім славянскім свеце... А мы зусім нядаўна ўшанавалі памяць аб ім першым помнікам у Полацку і толькі сёння, напярэдадні 500-гадовага юбілею, гаворым поўную праўду свайму народу аб гэтым чалавеку, знаёмімся з усёй яго творчай спадчынай. А Скарына не толькі беларускі першадрукар, ён сусветна вядомы гуманіст і асветнік, сапраўдны майстра прыгожага беларускага пісьменства. Міжволі прыходзяць на памяць яго словы: «...Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птицы, летающие по воздуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих,— тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають». Праз пяць стагоддзяў заклікае нас Ф. Скарына берагчы зямлю, на якой выраслі, а значыць — берагчы сваю культуру і мову.

Старажытнабеларускі перыяд у нашай гісторыі — гэта кветкі, якія ўзышлі не толь-

кі імем Ф. Скарыны, але і імёнамі С. Буднага, В. Цяпінскага, братоў Зізаніяў, М. Сматрыцкага і іншых, аб якіх мы ведаем вельмі мала; наспела пара запоўніць прагалы ў ведах, бо кожнае з гэтых імёнаў дапаможа абудзіць нацыянальную свядомасць многіх беларусаў. Зрэшты, колькі ж можна губляць, каб людзьмі называцца?!

Далейшы ход развіцця беларускай народнасці, пачынаючы з канца XVI ст., яе трансфармацыя ў нацыю былі надзвычай неспрыяльнымі, пазначанымі горам, пакутамі і крывёю. «Уваходжанне беларускіх земляў у склад Рэчы Паспалітай,— як адзначае доктар гістарычных навук Л. М. Лыч, — аказалася не такім бяскрыўдным, як магло здавацца на пачатку гэтай падзеі. Паступова з раўнапраўнага суб'екту поліэтнічнай дзяржавы Беларусь ператваралася ў нацыянальна залежны край каралеўскай улады. Моцна затармазіла этнасацыяльныя працэсы і духоўнае развіццё беларускага народа палітыка яго прымусовага апалячвання і акаталічвання. Да таго ж супраць сваёй волі Беларусь ператварылася ў арэну безупынных ваенных сутычак паміж польскімі і рускімі войскамі». Пачалася адна з самых доўгіх і цяжкіх старонак у гісторыі беларускага народа. Пераважна з прычын знешняга характару ён страціў здольнасць сам вырашаць свой лёс, пачаў несці незлічоныя матэрыяльныя, духоўныя і людскія страты да такой ступені, якая пагражала яму знікненнем з гістарычнай арэны як этнасу. І ўсё ж знясілены частымі войнамі, маральным, эканамічным і палітычным гнётам Беларусь працягвала жыць, бо якраз просты беларускі народ нават у часы самых жорсткіх выпрабаванняў быў непахісным прыхільнікам роднай культуры і роднай мовы. Менавіта ён амаль праз два стагоддзі жорсткіх выпрабаванняў нёс у сваіх вуснах жывое беларускае слова, на аснове якога пачала складвацца сучасная беларуская нацыянальная мова ў канцы XVIII — пачатку XIXстст., калі беларускія землі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай трапілі ў склад Расійскай імперыі.

У новым дзяржаўным аб'яднанні наш народ, бясспрэчна, адчуў крэўную блізкасць сваёй культуры і мовы з рускай, але і тут у яго было шмат прычын да заняпаду, да духоўнай гібелі, бо цяпер даводзілася адбівацца не толькі ад апалячвання, але і ад русіфікацыі, узведзенай у ранг афіцыйнай палітыкі Расійскага самаўладдзя. «Плённа» папрацавалі ў гэтым напрамку пастаўленая на службу дзяржавы навука, уся сістэма народнай адукацыі і царква. Яны дасягнулі многага, і галоўная іх «заслуга», відаць, у тым, што 6-мільённы народ, які першым з усходніх славян набыў уласнае друкаванае слова, аж да пачатку XX ст. зусім не выдаваў кніг, газет і часопісаў на роднай мове. Але цалкам пазбавіць беларусаў гістарычнай памяці, мовы, духоўных традыцый, вытруціць этнічную свядомасць не ўдалося і праваднікам расійскай вялікадзяржаўнай палітыкі. Сярод беларускага народа заставаліся сапраўдныя сыны і дочкі, якія праяўлялі зайздросную мужнасць, рэагуючы на адмоўныя праявы сацыяльна-палітычнага жыцця Расійскай імперыі. Была ў XIX ст. і засталася нашчадкам ананімная беларуская літаратура, напісаў і здолеў надрукаваць у польскім друку першыя значныя беларускія творы В. Дунін-Марцінкевіч, праз рускі друк даходзіла да народа беларуская паэзія Я. Лучыны, з Кракава і Познані траплялі ў рукі прызначанаму чытачу творы Ф. Багушэвіча. Вядома, працягла гвалтоўная паланізацыя і русіфікацыя пакінулі ганебны адбітак на лёсе і гісторыі нашага народа, яны адарвалі большасць беларусаў ад іх духоўных традыцый, зрабілі абыякавымі да спадчыны далёкіх і блізкіх пакаленняў, амаль не пакінулі свядомых нацыянальных сіл нават падчас распачатай на пачатку XX ст. барацьбы ўсіх народаў Расіі за нацыянальнае адраджэнне. З болем пісаў аб гэтым М. Багдановіч:

Народ, Беларускі Народ!
Ты — цёмны, сляпы, быццам крот.
Табою ўсягды пагарджалі,
Цябе не пушчалі з ярма
І душу тваю абакралі,—
У ёй нават мовы няма.

Аднак душа беларускага народа не памерла. У нацыянальную літаратуру прыйшлі Купала і Колас, каб шчодра расквеціць родную культуру і мову. Шырокія перспектывы адкрыла нам і забяспечыла жыццё як нацыі Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя. І зноў: толькі сёння даведваемся мы з гістарычных раманаў Г. Далідовіча, з артыкулаў Л. Лыча, А. Цітова, М. Іванова і інш., што заваёвы Кастрычніка даваліся беларусам не так проста. Для прыкладу прывяду выказванне В. Кнорына: «Мы считаем, что белорусы не являются нацией и что те этнографические особенности, которые их отделяют от русских, должны быть изжиты... Белорусское движение является воздвижением новых национальных рогаток, а поэтому коммунисты не могут в каком бы то ни было виде принимать участие в этом движении». Так пісаў у газеце «Звязда» сакратар Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РКП(б), той, хто пасля ўзначаліць партарганізацыю Беларусі. Каментарыі не патрэбны... Падзякуем лёсу, што перамог геній Леніна, перамаглі дух, розум, сумленне камуністаў-беларусаў Жылуновіча (Гартнага), Чарвякова, Ігнатоўскага і іншых. Амаль усе яны паплаціліся за вялікую ідэю, за веру ў свой народ, а мы ўсё яшчэ ніяк не асмелімся цалкам рэабілітаваць іх імёны, аддаць ім усю даніну павагі. Якраз намаганнямі гэтых людзей беларуская мова ў 20-я гады была ўзведзена ў ранг дзяржаўнай, на ёй вялося на Беларусі справаводства, пісаліся навуковыя працы, навучалася абсалютная большасць вучняў і студэнтаў. Аб тым, як далёка зайшло ажыццяўленне ленінскай нацыянальнай палітыкі 20-ых гадоў, можна меркаваць хоць бы па тым, што нават у 1940 годзе, пасля разгару сталінскага тэрору, у БССР было ўсяго 7 працэнтаў школ з небеларускай мовай выкладання. Пра дваццатыя гады некаторыя выказваюцца як пра «залаты век» беларускай сацыялістычнай культуры. А да чаго мы прыйшлі сёння?..

Зноў распачынаем беларусізацыю, бо агледзеліся, што стаім на мяжы духоўнага знікнення, як ніколі раней, высвятляем тыя прычыны і механізмы дзеяння, якія прывялі да катастрафічнага стану нацыянальную культуру і родную мову. Жахаемся ад масавага нацыянальнага нігілізму ў рэспубліцы, а гэта ж, кажучы словамі І. Мележа, «таксама нацыяналізм». Працытую: «Гэта пачварная форма нацыяналізму таксама зыходзіць з няроўнасці народаў і нічога агульнага не мае з інтэрнацыяналізмам, камунізмам. Калі мы да слова «нацыяналізм» дадаём — «буржуазны», то да слова «нігілізм» справядліва дадаць яшчэ і «лакейскі». Па сутнасці, гэта таксама старая, буржуазная, спадчына... Гэта гнуснае пачуццё, асабліва гнуснае таму, што яно зыходзіць у рэшце рэшт з эгаістычнай выгады, таму што яно поўна пагарды да свайго народа, да ўсяго, што здабыта вякамі яго працы».

Вядома, няма падставы цалкам згаджацца з тым, што беларускі народ быццам сам адмаўляецца ад роднай мовы. Сітуацыя, якая склалася ў нашай рэспубліцы, мае прычыны, якія не могуць быць зведзены толькі да спасылак на нацыянальны нігілізм, на блізкасць беларускай мовы да рускай ці ўзмацненне ў пасляваенны час міграцыі і урбанізацыі. Гэтыя фактары самі па сабе не маглі прывесці да выцяснення з дзяржаўнага і грамадскага жыцця мовы, культуры, традыцый карэннага народа, які праз такія пакуты праносіў роднае слова ў дакастрычніцкі час, каб выжыць як нацыі, якая дала імя суверэннай рэспубліцы.

Галоўныя прычыны ўжо названы, пра іх сёння шмат гавораць, але не трэба баяцца паўтараць яшчэ многа разоў, каб ніколі не вяртацца больш на крывавыя віткі гісторыі. Галоўнымі з гэтых прычын я маю на ўвазе тыя механізмы, якія пачалі дзейнічаць ужо з канца 20-х гадоў і былі накіраваны на ліквідацыю правоў і магчымасцяў рэспублік, на адмову ад рэалізацыі ленінскай нацыянальнай палітыкі. Самы страшны з гэтых механізмаў — крывавы сталінскі тэрарыстычна-рэпрэсіўны. У яго крывавую пашчу папалі самыя свядомыя і сумленныя нацыянальныя сілы.

Курапаты... Колькі ўжо іх адкрыта, а колькі яшчэ невядома...

Першы механізм прывёў у дзеянне другі — адміністрацыйна-валюнтарысцкі, які без збояў працаваў ажно да перабудовы, да 1985 года. Ён і прама і ўскосна вёў да звужэння сферы выкарыстання беларускай мовы (у роўнай ступені, як і іншых моў Савецкага Саюза): прымаліся пастановы, накіроўваліся інструкцыі, даваліся вусныя ўказанні на розныя абмежаванні, да апошняга часу не спынялася кампанія па ліквідацыі школ з беларускай мовай навучання.

А яшчэ былі ў нас ідэалагічныя маніпуляцыі на нацыянальным пытанні. Асабліва многа шкоды яны прынеслі пры Хрушчове, які абвясціў, што камунізм надыдзе ў 80-я гады, і кіраўніцтва нашай рэспублікі ці не хутчэй за ўсіх іншых пасьпяшалася фарсіраваць дэбеларусізацыю, каб не «спазніцца» са зблiжэннем і зліццём нацый да пачатку 80-х гадоў.

Нацыянальныя адносіны сёння на Беларусі глыбока дэфармаваны. І калі не прыняць актыўныя дзяржаўныя меры, то сучасная сітуацыя непазбежна прывядзе да страты беларусамі роднай мовы, заняпаду нацыянальнай культуры, паступовага знікнення беларускага народа як этнасу.

Будзем, аднак, аптымістамі. Першыя крокі зроблены: 26 студзеня 1990 года на гістарычнай сесіі Вярхоўнага Савета БССР прыняты Закон "Аб мовах у Беларускай ССР", распрацоўваецца Дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы і іншых моваў у Беларусі. Хвалюе толькі адно: каб не здожылася чакаць...

Паўтараем так часта афарыстычны выраз «Мова — душа народа». Але душа беларусаў вельмі хворая і просіць паратунку, лячыць яе трэба неадкладна, хутка. Усім разам. Усімі намаганнямі.

*Зміцер САНЬКО*

# Конь вырвецца — здагоніш, а слова вырвецца — не зловіш

Ці варта казаць, якое месца ў мове займаюць прыказкі і прымаўкі, гэтыя «залатыя россыпы народнай мудрасці», як называў іх наш выдатны вучоны Ф. Янкоўскі. Яны шмат у чым вызначаюць багацце і вобразнасць кожнае мовы. Як жа мы, беларусы, шануем гэты скарб, рупліва сабраны не адным пакаленнем фальклярыстаў?

На жаль, хваліцца нам тут не выпадае. Русіфікацыя нашае мовы моцна закранула і некалі магутны пласт выслоўяў. Сёння, асабліва ў мове сродкаў масавай інфармацыі, спрадвечныя беларускія прыказкі і прымаўкі ў значнай ступені выцеснены прымітыўнымі калькамі з рускае мовы.

Цяпер ужо рэдка ў якой газеце сустрэнеш трапнае народнае выслоўе, затое звыклымі сталі *Абяцанага тры гады чакаюць, Ахвота горш няволі, Капейка рубель беражэ, На чужы раток не накінеш платок, Першы блін камяком, У цеснаце, ды не ў крыўдзе, Чакай ля мора пагоды* і да т. п.

На мой погляд, сёння, у часы панавання на Беларусі рускае мовы, плённым падыходам у вяртанні нашай мове яе дыяментаў можа быць складанне руска-беларускага «слоўніка» прыказак і прымавак. Спроба такога слоўніка і прапануецца ўвазе чытачоў «Нашага слова».

**Бедность — не порок** — Сярмяга — не знявага, а жупан — не вялікі пан; Бяднейшы — не канечне дурнейшы.

**Богатому черти деньги куют** — Багатаму чорт дзеці калыша; У каго дабро вядзецца, у таго й певень нясецца; Як вядзецца, то й на трэску прадзецца.

**Бог не выдаст, свинья не съест** — Бог не папусціць, свіння не ўкусіць; Калі Бог не дасць смерці, дык не возьмуць і чэрці.

**Был бы хлеб, а зубы сыщутся** — Быў бы хлеб, а мышы збягуцца; Абы было ў торбе, то з'ем і на горбе; Абы хлеб быў, а нахлебнікі будуць.

**В гости со своим самоваром не ходят** — У студню вады не льюць, а ў лес дроў не вязуць; У крыніцу не носяць вадзіцу.

**Век живи, век учись** — Што жывем, то вучымся; Будзем вучыцца, пакуль смерць лучыцца; Колькі робіш, столькі вучыся.

**Весна красна цветами, а осень — плодами** — Багата вясна кветкамі, а восень палеткамі; Вясна краскамі багата, а восень з пірагамі ў хату.

**Взялся за гуж — не говори что не дюж** — Узяўшыся за гуж, не кажы, што нядуж; Калі ўлез у дугу, не кажы «не магу».

**Видит око, да зуб неймет** — Бачыць вока, ды вісіць высока; Хочацца, ды не даскочыцца; Вочкі глядзяць, ды трасцы з'ядзяць.

**Визга много, а шерсти нет** — Шмат дзіва, але мала мліва; Не столькі той брагі, колькі звягі; Не столькі піва, колькі дзіва.

**В ногах правды нет** — Сядзь, няхай полы не вісяць; Сядзьма на калодзе, пагаворым аб прыгодзе; Ногі для дарогі.

**Волка бояться — в лес не ходить** — Баючыся ваўкоў, застанешся без грыбоў; Баяўшыся трэску, і ў лес не трэба хадзіць.

**Вольному воля, спасенному рай** — Вольнаму воля, шалёнаму поле; Шырокае поле: ідзі, куды воля.

**Воровское стяжанье впрок не пойдет** — Чужое не тучыць, бо сумленне мучыць; Чужое дабро вылазіць праз рабро; Ад зладзейства не разжывешся.

**Всем сестрам по серьгам** — Кожнаму брату па дукату; Усякаму сваяку хоць бы па медзяку.

**Всему свое время** — На ўсё свой час; Без пары няма й травы; Без часу не будзе квасу.

**Все хорошо, что в меру** — На ўсё ёсць мера; Добра, што ў меру, а што зашмат, тое не ў лад; Што задужа — не здарова.

**Всяк молодец на свой образец** — Кожны кравец сваім кроем, кожны кеп сваім строем; У кожнага кавалера свае манеры.

**Всяк петух смел на своей навозной куче** — У сваім гародзе роўны ваяводзе; На сваім сметніку і верабей гаспадар.

**В тесноте, да не в обиде** — Дзе цесна, там пацешна; Цесна сядзець, ды добра глядзець.

**В чужой монастырь со своим уставом не ходят** — З сваёй цаною на кірмаш не едуць; У чужой бажніцы свечкі не папраўляй.

**В чужом глазу сучок видит, а в своем бревна не замечает** — Чужыя грахі перад вачыма, а свае за плячыма; У чужым воку й парушынку ўгледзім, а ў сваім і калоды не пабачым.

**Где силой взять нельзя, там надобна ухватка** — Трэба розумам надтачыць, дзе сіла не возьме; Дзе не можна сілаю, там бяры здогадам; Не сілаю, дык спосабам.

**Где тонко, тут и рвется, где худо, тут и порется** — Дзе коратка, там рвецца, дзе балюча, там б'ецца; На балючае вока ўсё парушына ляціць.

**Глазам видно, да ногам обидно** — Блізка відаць, ды далёка дыбаць; Блізка то блізка, ды каб не было слізка.

**Головой стены не прошибешь** — Лобам муру не прабʼеш; Хоць лоб і медны, але ж мур каменны.

**Голому разбой не страшен** — Стáрцу пажар не страшны; Мокры дажджу не баіцца; З жабрака сарочкі не здзярэш.

**Господь терпел и нам велел** — Бог жабраваў і нам казаў; Цярпі, Зося, так прыйшлося; Гніся, не гніся, а ў аглоблі станавіся.

**Грамоте учиться — всегда пригодится** — Вучыся, нябожа, вучэнне паможа; Навука хоць намучыць, але жыць навучыць; Што зáмаладу навучышся, на старасць як знойдзеш.

**Грехи любезны доводят до бездны** — Што цела любіць, тое душу губіць; Не заглядайся на чужых жонак: не скасееш, дык здурнееш; Гулі да дабра не давядуць.

**Гусь свинье не товарищ** — Раўня як свіння да каня; Мядзведзь карове не брат; Качар курыцы не пара.

**Двое дерутся — третий в выигрыше** — Дзе двух зваду вядзе, там трэці крадзе; Дзе двух сварыцца, там трэці

карыстаецца.

**Делу — время, потехе — час** — Перш папрацуй, а тады й патанцуй; Калі — на лянок, а калі — у танок; Гульня, ды не штодня.

**Дом невелик — гулять не велит** — Сямейка малая — работы хапае; Гурт невялічкі — гуляць няма звычкі.

**Дорог не обед, а привет** — Даражэйшае не сняданне, а прывітанне; Недарага ежка, дарага пацешка; Ці з перцам, ці не з перцам, абы са шчырым сэрцам.

**До свадьбы заживет** — Пакуль жаніцца, усё загаіцца; Пакуль шлюб браць — нічога не знаць.

**Доход не живет без хлопот** — Той мае, хто дбае; Гаспадарка — клапатарка.

**Дурака пошлешь, а за ним и сам пойдешь** — Пашлі дурнога, а за ім другога; Пашлі асла, за ім пасла; Пашлі Ціта па сіта — ані сіта, ані Ціта.

**Если кажется, нужно перекреститься** — «Мусіць» за вуха ўкусіць; Здаецца, што й певень смяецца; Як здаецца, то хрысціся.

**Ешь пирог с грибами, а язык держи за зубами** — Памаўчы, язычок, калі ясі, а не памаўчыш — трасцу з'ясі.

**Жди у моря погоды** — Сядзі ў будзе і чакай, што будзе; Сядзі ды на неба глядзі.

**Запас карман не дерет** — Вялікая куча не надакучыць; Запас бяды не чыніць; Няхай будзе — есці не просіць.

**За спрос не бьют в нос** — За папытанне не даюць ні ў каршэнь, ні снядання; Няведанне — не грэшанне.

**И волки сыты, овцы целы** — І сена цэлае, і козы сытыя; І Богу дагадзіць, і чорта не гнявіць.

**И мы не лыком шиты** — І мая доля не шчарбатая; І мой квасок не з трасок; І мы не з гліны злепленыя; І мая душа не ў пні.

**Какова пава, такова ей и слава** — Якая дзеўка, такая ёй і прыпеўка; Які Рыгорка, такая пра яго й гаворка.

**Каков Дёма, таково у него и дома** — Які пан, такі й будан; Якая Агатка, такая ў яе і хатка; Якія мы гаспадары, такія й нашыя двары.

**Копейка рубль бережет** — Зерне да зерня — будзе поўная мерня; Колас да коласа — сноп будзе; Рубель з граша паходзіць.

**Кто в лес, кто по дрова** — Хто ў плот, а хто ў агарод; Хто ў боб, хто ў гарох, а хто ў саладуху; Хто ў мох, хто ў алешнік.

**Куда конь с копытом, туда и рак с клешней** — І жук, і жаба, і чорт, і баба; Каваль каня куе — і жаба нагу дае.

**Лоб широкий, да ума мало** — Галава з лубку, а розуму з бубку; Лоб, што лапата, ды розуму небагата.

**Ложка дегтя портит бочку меда** — Кропля смуроду псуе гарнец мёду.

**Лучше по миру собирать, чем чужое брать** — Тое не ўстыд, што дадзена, а тое ўстыд, што крадзена; Лепш папрасі, а так не нясі; Лепей жабраваць, чым красці.

**Любопытной Варваре нос оторвали** — Цікаўнай Амілі нос прышчамілі; Цікаўная Тэкля гатова лезці ў пекла.

**Молодец против овец, а против молодца и сам овца** — Зух супраць мух, а супраць зуха і сам муха; Герой з калом да жабы.

**На бедного Макара все шишки валятся** — На каго людзі гавораць, на таго й свінні рохкаюць; Над пешым арлом і варона з калом; На пахілае дрэва і козы скачуць.

**На безрыбье и рак рыба** — На бязлюддзі й мы людзі; Як няма мяса, то і грыб закраса; Як няма рыб, добры і грыб.

**На Бога надзейся, а сам не плошай** — Божа, памажы, але й сам не ляжы; На Бога спадзявайся, але й сам старайся; Працуй, нябожа, то і Бог паможа.

**На миру и смерть красна** — На людзях і плакаць лягчэй; А памрэ Аўдзей, дык жа між людзей.

**Насильно мил не будешь** — Не памогуць і чары, як каму хто не да пары; Упрошваючы не намілуешся; Сілаю не быць мілаю.

**На урода все неугода** — Благой благаце дрэнна й на куце; Ліхому чалавеку нічым не дагодзіш.

**На чужой каравай рот не разевай** — Не будзь ласы на чужыя каўбасы; Не руш чужога і не бойся нікога.

**На чужой роток не накинешь платок** — Няма тае хусты, каб завязаць людзям вусны; Чужы рот не каўнерык — яго не зашпіліш; Людзям губы не завяжаш.

**Не было печали, так черти накачали** — Не мела баба клопату, купіла парася; Купіў дуду на сваю бяду; Не меў Саўка клопату, дык жонку ўзяў.

**Не гони кнутом, а гони овсом** — Давай каню не пугу, а сена з лугу; Каня не дагледзіш — далёка не заедзеш.

**Не до жиру, быть бы живу** — Не да каляды, калі поўна хата бяды; Стала не да юру, абы вынесці скуру; Якія тут святкі, калі лупяць падаткі.

**Незваный гость хуже татарина** — Няпрошанаму госцю лыжкі няма; Прыйшоў нязваны і йдзі нязнаны; Няпрошанаму госцю месца пад сталом.

**Не откладывай на завтра то, что можно сделать сегодня** — Адклад не йдзе ў лад; Лепей цяпер, чым у чацвер; Сон на заўтра адкладзі, а справу сёння давядзі.

**Не ошибается тот, кто ничего не делает** — Той не памыляецца, хто ад працы хіляецца; Хто сядзіць, той не спатыкаецца.

**Не суй нос не в свой вопрос** — У чужое проса не ткні носа; Не твая палоса — не тыч носа; Дзе сава і сыч, там носа не тыч.

**Овчинка выделки не стоит** — Вычынка даражэйшая за аўчынку; Аўчынка не варта вычынкі.

**От тюрьмы да от сумы не зарекайся** — Ад астрогу няма перасцярогу; Хваробы бойся, астрогу сцеражыся, а торбы не цурайся.

**Паршивая овца все стадо портит** — Праз аднаго Іванка ўсім заганка; Праз аднаго барана ўвесь статак паганы.

**Петр кивает на Ивана, Иван кивает на Петра** — Благі з ліхім знаюцца, адзін на другога спасылаюцца; Мікіта на Гаўрылу, Гаўрыла на Тамаша — то будзе жыццё кепска наша.

**По усам текло, а в рот не попало** — Быў на мяду, абліў мёдам бараду; Па барадзе цякло, а ў роце суха было; Па губах цякло, ды ў роце не было.

**Пришла беда — отворяй ворота** — Бяда па бядзе як па нітачцы йдзе; Бяда ідзе і бяду вядзе; Гора адно не йдзе, а за сабою сем вядзе.

**Пустился в драку — головы не жалей** — Як пайшоў у сварку, то не шкадуй карку; На чужы лоб сягаючы, трэба й свой падставіць.

**Работа не волк, в лес не убежит** — У Бога дзён многа — паробім; Абы здароўе, работа будзе.

**Рыбак рыбака видит издалека** — Сарока сароку бачыць здалёку; Жабрак жабраку відаць па кійку.

**С глаз долой — из сердца вон** — З вачэй сышоў і з памяці зваліўся; Як з вачэй, то і з думкі.

**Седина в бороду — бес в ребро** — Волас сівее, а галава шалее; Сівізна ў бараду, а чорт у галаву; У старой печы паляць чэрці.

**Семь пятниц на неделе** — На адзін дзень сем перамен; Як увосень: на дзень пагод восем.

**Сколько веревочке ни виться, а конец будет** — Да пары штука ўдаецца; Да пары збан ваду носіць; Колькі б воўк ні валок, павалакуць і воўка.

**Смелость города берет** — У каго адвага, у таго й перавага; Адвагаю і пекла пяройдзеш; Бой адвагу любіць.

**С милым рай и в шалаше** — Хоць без хлеба пасяджу, але ж на любага пагляджу; Хоць у будане жыць, абы з каханым быць.

**Солдат спит — служба идет** — Кухар спіць, а суп кіпіць; Бабка спіць, а гусей пасе.

**Старый конь борозды не портит** — І ў старой печы агонь добра гарыць; Сівы, але маю кавалак сілы; Стары вол баразну не скрывіць.

**Стыд не дым, глаза не выест** — Гразь — не кароста, сорам — не дым; Ад сораму вочы не павылазяць.

**Труд человека кормит, а лень портит** — Праца гадуе, а гультайства марнуе; Дзе шчырая праца, там густа, а дзе лянота — пуста; Ад лянoты чакай бядоты.

**У нас таких на пятачок пучок** — Гэты кввеце па ўсім свеце; Шмат у гарнец такіх малайцоў улезе; На тым свеце знайду лепшага ў смецці.

**Услужливый дурак опаснее врага** — Дурная помач горай за немач; Іншая рада — горай як здрада; Не карай, божа, нічым, адно сябрам дурным.

**Хрен редьки не слаще** — Адно — гарачка, а другое — балячка; Як там не смятана, так тут не сыроватка.

**Цыплят по осени считают** — Не хваліся сеўшы, а хваліся з'еўшы; Не той хлеб, што на полі, а той, што ў гумне; Не лічы кветачкі ўвесну, а палічы ягадкі ўвосень.

**Что в лоб, что по лбу** — Ці савою аб пень, ці пнём аб саву — усё саве бяда; Ці ад пана, ці ад цівуна, а ўсё баліць ад бізуна; Ці пень, ці калода, усё пятарч носам.

**Что у кого болит, тот о том и говорит** — Што каму дапякае, той пра тое і гукае; Што каму рупіць, той пра тое жупіць.

**Шила в мешке не утаишь** — Грэх не схаваеш у мех, не ўтопчаш у балота; Лес чуе, а поле бачыць.

**Яблоко от яблони недалеко падает** — Якая матка, такое й дзіцятка; Якое дрэва, такі клін, які бацька, такі сын.

**Язык мой — враг мой: прежде ума рыщет** — Языча, языча, сабе дабра не зыча; Свой язык горшы за ліхога суседа.

# ЖЫВАТВОРНАЯ КРЫНІЦА

## З творчасці беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў

### *Наталля* АРСЕННЕВА

### ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ

Радасць жаўранкам звоніць над хмарамі,
хай не згледжу яе, не збяру...
Дні насталі важкія, змагарныя,
зноў
спрабуе расці
Беларусь...
Зноў спрабуе,
і з думкамі нашымі,
з дзіўнай, кволаю музыкай слоў...
Слоў,
што кпілі з іх ворагі, страшылі,
што ледзь ветрам іх не замяло.
Наша ж мова —
цудоўная, спеўная,
ўмее спелым калоссем шумець,
галасіць навальніцай улеўнаю,
верасьнёваю медзяй звінець.
Мова наша —
выкута з золата —
не йржавее,
блішчыць,
зіхаціць.
Гэта мова паэтаў і волатаў,
скарб, які нас трымаў пры жыцці.
Каб не мова,
даўно б мы растаялі,
расплыліся б імглой між чужых,
збеглі ў вырай гусінаю стаяю...
Але з мовай — і мы будзем жыць.
Будзем жыць!
Днямі яснымі, новымі,
пойдзем, пойдзем з табой угару,
наша жытная
і васільковая,
несмяротная Беларусь!

### *Масей* СЯДНЁЎ

### СОН

Невядома — хто знае — што падружыцца
з намі —
першы раз на чужыне ноч цвіла мая снамі.

Ішоў я па загонах і маленькім і босым
і ў празрыстых вачох нёс ліпнёвыя росы.

Пастухі забаўлялі кароў на жалейцы,—
малако тады ў вымя, кажуць, цёплае
льецца.

Пастухі весялілі зялёныя далі,
ды цяпер, як калісьці, мяне не віталі.

Не пачуў пра сябе я ні гуку, ні зыку —
яны, пэўна, забылі земляка і музыку.

Маё сэрца зайшлося ад раптоўнага
болю,—
я пайшоў да сялібаў па знаёмаму полю.

Мая родная хата мяне доўга чакала,
а прыйшоў — тое месца зусім пуставала.

Так прайшоўся я ў сне па зямлі Беларусі —
гэта значыць, напэўна, я туды не вярнуся.

### *Алесь* САЛАВЕЙ

### ХРЫСТОСАЎ ЛЁС

Няверцаў здрадай катаваны,
распяты быў Ісус Хрыстос,
Хоць меў няўгойныя Ён раны
і боль нясцерпны — а ўваскрос!
Знёс мукаў шмат мой край каханы,—
сцяў і яго Хрыстосаў лёс:
яму хоць цяжка, хоць балесне,
ён будзе жыць, ён уваскрэсне!
03.03. 1943 г.

### СПІ...

Ты адзін — усё-усенькае:
радасць, мукаў забыццё.
Немаўлё маё маленькае,
найсвятлейшае жыццё.

Спі, мой сынку... Аргентынаю
не злякае сябра-сон,
нешчасліваю гадзінаю
над табой не дзынкне ён.

Гаварыць пачнеш — часінкай той
зможаш праўду сна ўяўляць.
Кажны рух твой новы, сынку мой,
будзе родным прамаўляць;

Не ўсміхнецца ні Бразіліі,
ні Алясцы, ні Канго...
Станьце ж, станьце, сны, ідыліяй
непадкупнага, свайго.

# — НЕ АНЯМЕЦЬ!

Не крануць хай слыху ценькага
словы: Пэру, Парагвай,
і няхай у снох маленькага
ажыве бацькоўскі край.

На чужыне, 1946 г.

## *Рыгор КРУШЫНА*

О, слова салодка-хмялёвае,
Схаванае ў думках маіх!
Яно мне абраз вымалёўвае,
Яно мне — святая святых.

Як песня ў царкве вялікодная,
Яно урачыста пяе.

Прыроднае, моцнае, роднае
Жыве, паліць вусны мае.

І я на няўдачы жыццёвыя
Гукну веснавую пару,
І слова салодка-хмялёвае
Аж тройчы, як «свят» паўтару:
Беларусь!
Беларусь!
Беларусь!

## *Уладзімір КЛІШЭВІЧ*

* * *

...Той, хто адарваўся ад сваёй Радзімы, асуджае сябе на паступовае духоўнае выміранне. У чужой краіне нашы дзеці яшчэ гавораць на роднай мове, а ўнукі падпадаюць пад поўную асіміляцыю. Які б волат творчага духу сам па сабе ні быў, але калі ён адарваны ад роднай зямлі, ад свайго народа, ён паступова вычэрпвае самога сябе і ідзе да занепаду. Такую шматгадовую эвалюцыю я перанёс на самім сабе. Чалавек павінен мець цесную сувязь са сваёй роднай зямлёй, са сваім народам, бо і зямля, і народ — тая невычарпальная жыватворная крыніца, якая натхняе людзей на высокія творчыя справы, і зрачыся гэтай святой крыніцы — значыць скончыць жыццё самагубствам.

* * *

Ніхто ў мяне маці
З душы не адніме,
Натхнення багацце
Маё на Радзіме.
Дарогай чужою
Не крочу ў спакусе,
Я ў песні душою
Табе адгукнуся.

* * *

Кідай, паэт,— а то душа астыне —
Ты край чужы!
Пра горкі лёс далёка на чужыне
Ты раскажы.
Я сам свае над галавою цені
Пераламлю.
Ты апусціся цвёрда на калені,
Цалуй зямлю.
Калі цябе хто-небудзь запытае,
Скажы яму:
— Радзімы-маці кветка дарагая —
Мяжа ўсяму.

## *Янка ЗОЛАК*

### СУМ ПА РАДЗІМЕ

З краю роднага, з роднага дому,
У чужы і няведамы край
Мяне выгнаў мой лёс-пустадомак
Сумаваць і павольна ўміраць.

Я жыву і — здаецца — вясёлы
Па чужацкай вандрую зямлі,
Толькі сняцца мне нашыя сёлы,
Сняцца любыя сэрцу палі.

Сніцца мне: на вячорках дзявочых
Песні родныя срэбрам звіняць...
Слёзы горкія льюцца мне з вочаў,
Аніяк не магу іх суняць.

І тады я павольна згараю
У пякучай сардэчнай журбе!..
О, мой любы, гаротны мой Краю,
Як жа цяжка мне жыць без цябе!

## *Міхась КАВЫЛЬ*

### БЕЛАРУСЬ

Беларусь ты мая, Беларусь,
Няўгасная зорка Венера,
Я агнём тваім вечна гару,
У тваё уваскрошанне веру.

У крывава-чырвоным вянку
Не счарнелі пялёсткі шыпшыны...
Бачу: госці на Нёман-раку
Прыляцелі з далёкай краіны...

Вырай, доўга чаканы, расце.
Груганнё закрычала над лугам.
А у тых белакрылых гасцей
На грудзёх залатыя кальчугі.

Беларусь ты мая, Беларусь,
Няўгасная зорка Венера,
Я агнём тваім вечным гару,
У тваё уваскрошанне веру.

1953 г.

## *Уладзімір ДУДЗІЦКІ*

* * *

Не першы раз і не апошні, мусіць,
баліць душа, і рады не дасі.
Сніцёся мне вы, рэкі Беларусі,
і ты, журботная азёраў сінь.

Туманы вільгаці балотнай, дзе вы?
І рунь мурожная аселіц дзе?
Сатлеў пад стрэхамі ўчарашні невад
і човен гойдаецца на вадзе...

А з хаты прышлыя укралі восьці.
Да слёз расчулены з такой бяды,
мой кот, прывучаны да рыбы, посціць
і часта нюхае мае сляды.

Збівае першыя сонца росы,
йдучы да рыбнага калісь карча...
Яму, дачуўся я, сягоння млосна,
і ён чамусьці перастаў бурчаць.

Ля вербаў моліцца мая уцеха,
і плача, стомленая, ля ракі.
Няўжо бязвусае юнацтва смеху
не ўспеніць вёсламі і хваль пругкіх?

Няўжо ўпадзе яно на хвалі віру
і захлынецца непаўторны цвет?..
Сціскае грудзі мне бязбожны вырак,
і мой хістаецца, бы цень, шкілет.

Не першы раз і не апошні, мусіць,
баліць душа, і рады не дасі.
Сніцёся мне вы, рэкі Беларусі,
і ты, журботная азёраў сінь.

## *Юрка ВІЦЬБІЧ*

### ТАК СТАНЕЦЦА

...Дык загрымі жа ты жаданы,
Пярун забыты, загрымі!
Макар КРАЎЦОЎ

Калісьці хтосьці з чужынцаў заўважыў, што Беларусь нагадвае на мапе Еўропы трапецыю. А можа нехта з іх, шукаючы на глобусе Цэйлон і прыпадкам знайшоўшы Яе, прыгадае эліпс? А іншы з тых самых усміхнецца і папытаецца: «Ці чулі вы што-небудзь пра квадратуру круга?»

Нам па свайму абрысу нагадае заўсёды Бацькаўшчына даўнюю крывіцкую зброю. Дык пашчасліў Кон, каб важкая ды войстрая, яшчэ Пяруном зваракая ды Ярылам нам адказаная сякера абвалілася на нашых спрадвечных варагоў. І гэтак, толькі гэтак урэшце-рэштаў станецца.

Публікацыя Барыса САЧАНКІ.

# МІКАЛАЙ БАЙКОЎ

Сярод постацяў беларускага мовазнаўства на заранку яго зараджэння і развіцця адметна вылучаецца Мікалай Якаўлевіч Байкоў, з імем якога звязана надзвычай актыўная дзейнасць па стварэнні слоўнікаў беларускай мовы ў 20-ых гадах.

Мікалай Байкоў нарадзіўся ў 1889 годзе ў горадзе Бежацку былой Цвярской губерні ў сям'і святара. Вучыўся спачатку ў Бежацкім духоўным вучылішчы, потым у Цвярской духоўнай семінарыі. У 1913 годзе ён скончыў вучобу ў Маскоўскай духоўнай акадэміі і пачаў працаваць у Мінскай духоўнай семінарыі выкладчыкам філасофскіх і педагагічных навук. У 1918 годзе М. Байкоў быў абраны выкладчыкам Мінскага настаўніцкага інстытута, які пазней стаўся педагагічным інстытутам, а ў 1920 годзе — Інстытутам народнай асветы. Там ён чытаў праграмныя курсы педагогікі, псіхалогіі, логікі і гісторыі філасофіі. Выкладанне ў гэтых інстытутах, а з часам у Белпедтэхнікуме М. Байкоў спалучаў з даследчай дзейнасцю на пасадзе сакратара Тэрміналагічнай камісіі пры Народным камісарыяце асветы БССР, а потым Слоўнікавай камісіі Інбелкульта і Інстытута мовы і літаратуры Акадэміі навук. Беспадстаўна абвінавачаны, ён быў звольнены ў 1930 годзе з акадэмічнай пасады — «як скампраметаваны ў друку і як чужы паводле сацыяльнага паходжання». Жыць даводзілася на выпадковыя заробкі ў рэкламным бюро, некаторых рэдакцыях, на ганарары за пераклады на беларускую мову з рускай, украінскай і нямецкай моваў. Памёр М. Байкоў 23 ліпеня 1941 г.

Схільнасць да навуковай працы М. Байкоў выявіў яшчэ ў студэнцкія гады. Здольнага і дапытлівага юнака асабліва цікавіла старажытная філасофія. Добрае веданне грэцкай і лацінскай моў дазволіла яму вывучаць у арыгіналах творы Арыстоцеля, Платона і іншых антычных аўтараў, а пасля сканчэння духоўнай акадэміі распачаць пад кіраўніцтвам прафесара С. Сабалеўскага напісанне дысертацыі пра філасофскія погляды Клімента Александрыйскага. Праўда, ад гэтага потым давялося адмовіцца: у Мінску не было патрэбных матэрыялаў дый не выпадала ва ўмовах ваеннага часу (ішла першая сусветная вайна) выпісваць іх з іншых навуковых цэнтраў.

У час працы ў Мінскім настаўніцкім інстытуце М. Байкоў падрыхтаваў да друку курс сваіх лекцый па гісторыі старажытнай філасофіі і ў пачатку 1919 года здаў яго ў друк. Першыя тры аркушы гэтага курса былі набраныя, але далейшае друкаванне спынілася ў сувязі з нямецкай, а потым і польскай акупацыяй Мінска.

Захапленне старажытнай філасофіяй у М. Байкова было нядоўгае. Паводле пазнейшага яго сцвярджэння, у 1918—1919 гадах, калі М. Байкоў чытаў лекцыі па педагогіцы на Першых беларускіх настаўніцкіх курсах, ён «пазнаёміўся з беларускім рухам і пранікся шчырым жаданнем працаваць над адраджэннем беларускай культуры». Гэтай высакароднай справе малады вучоны, які, што вельмі характэрна, сам не быў беларусам і выхоўваўся ў асяроддзі, далёкім ад ідэй нацыянальнага раўнапраўя, прысвяціў усё сваё далейшае жыццё. Галоўнымі аб'ектамі ягоных навуковых заняткаў сталі педагогіка, беларуская мова і беларуская літаратура. У кожную з гэтых галін ведаў М. Байкоў зрабіў значны для таго часу ўклад, аднак найбольшую вядомасць далі яму лінгвістычныя працы, перш за ўсё лексікаграфічныя. Ён быў аўтарам тэрміналагічнага слоўніка па логіцы і псіха-



логіі, сааўтарам чатырох руска-беларускіх і беларуска-рускіх перакладных слоўнікаў і адным з рэдактараў усіх выдадзеных і падрыхтаваных да друку ў 20-х гадах дыялектных слоўнікаў.

Слоўнік «Беларуская навуковая тэрміналогія. Выпуск чацвёрты. Тэрміны логікі і псіхалогіі» (1923) змяшчае ў сабе 1090 беларускіх тэрміналагічных слоў і словазлучэнняў. Яны спачатку пададзены як перакладныя эквіваленты да прынятых у рускай літаратурнай мове пад назвай «Расійска-беларускі слоўнік», а потым пералічаны асобна ў якасці індэкса да яго пад назвай «Слоўнік беларускіх тэрмінаў». У гэтым слоўніку аўтар імкнуўся амаль кожны іншамоўны навуковы тэрмін перадаваць уласна беларускім словам — словаўтваральнай або семантычнай калькай адпаведнага грэцкага: хроноскоп — часагляд, экстезиометр — чуламер, гармония — суладдзе, симпатия — спагада. Ён быў перакананым прыхільнікам ачышчэння беларускай мовы ад запазычанняў і стварэння беларускай навуковай тэрміналогіі на народнай аснове. Сама па сабе гэтая ідэя была слушная, і пазнейшыя папрокі М. Байкову і яго аднадумцам за быццам бы засмечванне беларускай літаратурнай мовы штучнымі наватворамі не мелі рацыі, бо кожны навуковы тэрмін у нейкай меры можа лічыцца штучным словам.

У 1924 годзе выйшаў з друку ўкладзены М. Байковым і М. Гарэцкім «Практычны расійска-беларускі слоўнік», які меў на мэце, як сказана ў «Прадмове», «даць практычную дапамогу пры пераходзе на беларускую мову ў выкладанні навук у беларускіх школах і вядзенні спраў у беларускіх дзяржаўных, грамадскіх і кааперацыйных установах». Рэестравая частка гэтага слоўніка налічвае звыш 18 тысяч слоў і словазлучэнняў, у тым ліку 136 уласных геаграфічных назваў, мужчынскіх і жаночых іменаў. У 1926 годзе гэты слоўнік выйшаў другім выданнем са значнымі зменамі.

Цікавы для свайго часу быў «Практычны беларускі вайсковы слоўнік. Часць 1-я (расійска-беларуская)», укладзены М. Байковым і А. Бараноўскім. Ён выйшаў у 1927 годзе. Рэестравая частка гэтага слоўніка налічвае каля 10 тысяч слоў і ўстойлівых словазлучэнняў трох функцыянальных груп. Гэта, паводле вызначэння саміх укладальнікаў, 1) «вузка спецыяльныя вайсковыя тэрміны, дапасаваныя пераважна да стралковых часцей», 2) «тэрміны, патрэбныя для палітычнага выхавання вайскоўцаў» і 3) «словы агульнага ўжывання, патрэбныя ў жыцці вайскоўцаў».

Вялікую практычную ролю адыгралі ўкладзеныя М. Байковым і С. Некрашэвічам «Беларуска-расійскі слоўнік» (1926) і «Расійска-беларускі слоўнік» (1928). Рэестравая частка першага налічвае звыш 20 тысяч слоў, а другога — звыш 60 тысяч. Другі з гэтых слоўнікаў вызначаецца тым, што ў ім рускія словы перакладзены звычайна не адным, а некалькімі сінанімічнымі беларускімі адпаведнікамі, з якіх на першае месца пастаўлены часцей ужывальныя ў тагачаснай беларускай літаратурнай мове, прычым вельмі сур'ёзная ўвага пры гэтым звернута на пераклад некаторых рускіх слоў у складзе розных сінтаксічных і фразеалагічных спалучэнняў.

Шмат часу і сіл М. Байкоў аддаў незавершанаму, на жаль, слоўніку жывой беларускай мовы, калектыўная праца над якім пасяпхова вялася з 1925 года і лічылася найважнейшым заданнем Інбелкульта, а потым і Акадэміі навук БССР. Як сакратар Слоўнікавай камісіі, ён кіраваў збіраннем з розных крыніц лексічных матэрыялаў, падрыхтаваў Праект укладання гэтага слоўніка, які быў абмеркаваны і прыняты камісіяй на пашыраным пасяджэнні 15 красавіка 1929 года.

М. Байкоў займаўся і падрыхтоўкай вучэбных дапаможнікаў. Ён аўтар лемантара для вясковых лікпунктаў «Наша сіла — Саветы» і сааўтар лемантара для дарослых «Наша сіла — ніва ды машына».

Найбольш значныя літаратуразнаўчыя артыкулы М. Байкоў выдаў у зборніку «На літаратурныя тэмы», які выйшаў у 1929 годзе.

І. ГЕРМАНОВІЧ.

Адам СТАНКЕВІЧ

# Адкуль узяліся Беларусы — каталікі лаціньнікі

Асабліва шмат пераходзілі Беларусаў з Уніі ў лацінства пасьля падзелу Польшчы, калі Беларусы апынуліся пад панаваньнем расейскіх цароў і калі з боку расейскіх уладаў ішоў выразны й часта грубы націск на ўніятаў з мэтаю пераводжаньня іх на праваслаўе. І так дзеля гэтых прычын за часаў царыцы Кацярыны II (1796 г.) многія Беларусы-ўніяты, якія жадалі захаваць веру сваіх бацькоў, пакідалі Унію й далучыліся да касьцёла лацінскага, адлучыць ад каторага расейскім уладам было значна цяжэй, як ад Уніі. Тое ж самае было й за часаў цара Паўла, як сьведча пра гэта ўніяцкі полацкі архіепіскап Іраклі Лісоўскі.

Гэткае-ж ізноў стаўленьне расейскае царскае палітыкі да ўніятаў са свайго боку правакавала й заахвочвала Палякоў цягнуць да сябе ў лацінства рэшту ўніятаў, што асталіся ўніятамі й далей трымаліся веры сваіх бацькоў. І ў гэтым часе цэлыя масы ўніятаў пераходзілі ў лацінства, бо — з прычыны паншчыны,— яны былі цалкам залежныя ад польскіх паноў і ад ксяндзоў.

Расейскія палітыкі спасьцерагліся і, жадаючы да сябе прыгарнуць Беларусаў-уніятаў, стараліся пераходу іх у лацінства процідзейнічаць. Так, напрыклад, у 1796, 1797 і 1799 г. былі выдадзеныя царскія ўказы, што забаранялі пераходзіць з Уніі ў лацінства. Але нічога гэта не памагала й Палякі ўніятаў Беларусаў цэлымі масамі пераводзілі далей у лацінства. У 1806 г. быў таксама выдадзены царскі ўказ, каб тыя ўсе цэрквы й прыходы, якія з Уніі перайшлі ў лацінства, зноў вярнуць у Унію. Адбываліся шматгадовыя вялікія судовыя працэсы й нічога з гэтага ня выходзіла: ня толькі што не вярочаліся былыя ўніяты ў Унію, але далей у лацінства пераходзілі цэлыя прыходы з усіх беларускіх губэрняў. Так, у 1809 г. у адной толькі Віленскай губэрні з Уніі ў лацінства перайшло да 20 тысяч Беларусаў.

Нямала таксама, а можа, найбольш, як калі, уцякала Беларусаў-уніятаў у лацінства ў 1839 г., калі найвышэйшае ўніяцкае духавенства, здрадзіўшы Унію, ня пытаючыся верных, часта пры помачы паліцыі, перапісвала іх у Праваслаўе. Ня хочучы быць сілаю запісанымі ў Праваслаўе, яны масава ўцякалі ў лацінскае Каталіцтва.

Урэшце за часаў першых у нашым краі расейскіх генерал - губэрнатараў у Вільні, асабліва-ж ведамага з сваёй жорсткасьці М. Н. Мураўёва, масы былых уніятаў з Праваслаўя ўцякалі ў лацінства. Да гэтага часу належаць трапныя словы праваслаўнага віленскага архіепіскапа Макарага, сказаныя Мураўёву на яго раду архіепіскапу знайсьці спосабы ўтрымаць пераход Беларусаў праваслаўных у Каталіцтва: «Дзеля таго, што чыноўнікі іх наварочвалі на Праваслаўе, дык няхай-жа яны знайдуць спосабы й утрымаць іх пры Праваслаўі»,— казаў гэны духоўнік.

Спрыяла пашыраньню ў нас лацінства й далейшая расейская палітыка. Расейскі ўрад на працягу першай паловы, калі ня больш, XIX ст. усіх каталікоў у нашым краі ўважаў за Палякоў, Каталіцкі Касьцёл з усімі ягонымі вернікамі называў «іноверчаскім і инородным». Зразумелая рэч, што гэткая палітыка яшчэ болей спрыяла ўтрываленьню ня толькі Каталіцтва, як такога але Каталіцтва ўжо польскага, і адгароджаньню яго ад беларускае стыхіі.

Калі-ж урэшце ў другой палове XIX ст., асабліва пасьля паўстаньня ў 1863 г., Расейцы дадумаліся, што ў Каталіцкім Касьцеле ёсьць шмат Беларусаў, і калі зажадалі зрабіць з іх «чыстых рускіх», у грамадзкай іх думцы паўстала вялікая спрэчка аб тым, ці даць супакой гэным Беларусам, пазволіць ім далей карыстацца мовай польскай у касьцеле й даць ім магчымасць спакойна польшчыцца, ці — наадварот — узяць іх пад высокую расейскую апеку й Беларусам, як рускім, даць мову расейскую. Урэшце перамагла гэтая апошняя думка і ў 1869 г. настаў «высочайшы дазвол» карыстацца ў касьцеле расейскай моваю. Зразумелая рэч, што царскі «дазвол» раўняўся загаду. Гэтак яго й зразумелі: урад, чыноўнікі, паліцыя, праваслаўнае духавенства. Ад гэтага «дазволу» аж да 1905 г. распачалася самая гарачая, часта зусім дзікая, барацьба ўраду ў кірунку ўвядзеньня ў касьцёлы ў дадаткавае набажэнства мовы расейскае замест польскае. І гэткая палітыка ўцьвярджала Беларусаў у Лацінстве і Беларусаў-каталікоў рашуча адгароджвала ад Беларусаў праваслаўных, творачы ўжо нават недарэчнае паняцьце «польскай» і «рускай» веры.

Урэшце, калі настала сякая-такая свабода сумленьня ў 1905 г., многія масава з Праваслаўя пераходзілі ў лацінскае Каталіцтва. Былі гэта тыя Беларусы, былыя ўніяты, якім дзеля тых ці іншых прычынаў раней перайсьці ў Каталіцтва не ўдалося. І цяпер пераход гэты быў значны, масавы. Былым уніятам Беларусам імпанавала лацінскае Каталіцтва й тым, што было ўціскanae і што гэта была вера іх дзядоў. У 1908 г., напрыклад, у вадной толькі Магілёўскай губэрні Беларусаў-каталікоў было 59 тысяч.

Вось гэткім чынам паявіліся ў Беларусі Беларусы-каталікі лаціньнікі. Гэта, як бачым, тыя-ж Беларусы, продкі якіх належалі да абраду ўсходняга: сьпярша ўсходнякаталіцкага, а пасьля праваслаўнага...

Сяньня Беларусаў-каталікоў на беларускіх землях Рэчыпаспалітай Польскай ёсьць больш за мільён, а на ўсім сьвеце: СССР, Латвія, Літва, Сібір, Злуч. Ст. Амэрыкі — будзе яшчэ мільён. Усіх Беларусаў - каталікоў, і на землях беларускіх, і на эміграцыі, сяньня будзе мільёны два.

Усе Беларусы, як праваслаўныя, так і каталікі,— гэта, як бачым, адзін суцэльны Беларускі народ, да якога 950 гадоў таму з усходу ў грэка-славянскім абрадзе заглянула сьвятло Праўды Хрыстовай.

(З кнігі: Станкевіч А. Хрысьціянства і Беларускі народ. Вільня, 1940, с. 128—132)

## У арганізацыях і суполках ТБМ

### На беларускую мову навучання

У СШ № 1 горада Пружаны адбылося сумеснае пасяджэнне сакратарыята раённага Таварыства беларускай мовы і дырэкцыі школы. На ім былі абмеркаваны пытанні пра перавод СШ № 1 на беларускую мову навучання і пра святкаванне 500-годдзя Францішка Скарыны.

Выступаючы на пасяджэнні, сакратар РК КПБ В. Грыгорык, былы загадчык райана І. Казарэз, яго намеснік К. Ляшко, кіраўнік раённага Таварыства беларускай мовы І. Здановіч, дырэктар СШ № 1 М. Плеска і іншыя адзначылі, што школа № 1 раней была беларуская, таму яна першай у горадзе пераводзіцца на беларускую мову навучання. З 1 верасня гэтага года на беларускую мову навучання павінны перайсці першакласнікі.

К. А. Ляшко выказала прапанову наладзіць работу ў школах раёна так, каб у вучняў не ўзнікла праблемы з падручнікамі на беларускай мове.

На беларускай мове навучання ў горадзе будзе працаваць і новая школа № 5.

На пасяджэнні сакратарыята ТБМ адзначана таксама, што і дашкольным установам неабходна актыўней выхоўваць у дзяцей пачуццё любасці да мовы і культуры свайго беларускага народа.

Па другім пытанні на пасяджэнні сакратарыята выступіў І. Здановіч. Ён заклікаў прысутных арганізоўваць у школах дні беларускага пісьменства і культуры, прысвечаныя 500-годдзю Францішка Скарыны.

Быў зацверджаны план работы Таварыства беларускай мовы на бліжэйшы час.

А. УЛАДЗІМІРАВА.

# У Тэрміналагічнай камісіі ТБМ

10 траўня адбылося першае пасяджэнне нядаўна створанай Тэрміналагічнай камісіі. Стварэнне яе выклікана самім жыццём. Аднаўленне дзяржаўнага статусу беларускае мовы, пашырэнне сферы яе функцыянавання вымагае дэталёвае распрацоўкі спецыяльнае тэрміналогіі.

Варта зазначыць, што такое пытанне паўстае не ўпершыню. Яшчэ ў 20-я гады пры Інбелкульце працавала Навукова-тэрміналагічная камісія, якая да часу сваёй ліквідацыі паспела выдаць 24 выпускі «Беларускае навуковае тэрмінолёгіі» па розных галінах навукі і практычнай дзейнасці.

Гэтая плённая праца, якая магла стацца грунтам далейшага ўдасканалення і росквіту нашае мовы, была гвалтоўна спыненая на пачатку трыццатых гадоў у часе першае хвалі рэпрэсій супраць беларускае інтэлігенцыі.

Далейшае развіццё навуковай і тэхнічнай тэрміналогіі ішло пераважна праз калькаванне і транслітэрацыю з рускае мовы. Усё гэта добра ўпісвалася ў канцэпцыю збліжэння і зліцця моваў, якая на практыцы ўвасобілася ў калечанне нашае мовы, навязванне неўласцівай ёй лексікі. Пэўны ўклад у гэтыя працэсы зрабіла даволі пашыранае сярод беларускіх лексіколагаў перакананне, што традыцыйныя побытавыя словы не могуць быць асноваю для навуковае і тэхнічнае тэрміналогіі.

Таму і з'явіліся ў нашай мове такія «перлы», як «прыбор», «раствор», «машыннае масла», «дзялімае», «складаемае», «аднімаемае», «млекакормячыя», «насякомыя» і безліч іншых.

Прыкметны зрух у галіне навуковае тэрміналогіі назначыўся ў сувязі з падрыхтоўкай і выданнем універсальнай «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі», але, на жаль, праз нейкі час гэтая праца заняпала ў выніку яшчэ аднаго палявання на «беларускіх нацыяналістаў», якое пачалося ў 1972 годзе.

Тэрміналагічная камісія Таварыства беларускае мовы не будзе падмяняць працы акадэмічнае камісіі, створанай у 1980 годзе. Можна спадзявацца, што іх суіснаванне будзе толькі на карысць роднай мове.

Пра ўсё гэта ішла гаворка на пасяджэнні Тэрміналагічнае камісіі ТБМ. На думку яе сяброў, калькаванне і запазычанне з рускае мовы не можа быць магістральным шляхам развіцця беларускае навуковае тэрміналогіі. Неабходна пераважная арыентацыя на сродкі і магчымасці свае мовы. У стварэнні тэрміналагічных слоўнікаў вырашана скарыстоўваць прыдатную дыялектную і гістарычную лексіку, адпаведныя ладу мовы наватворы, інтэрнацыянальную лексіку (у тых выпадках, дзе яна традыцыйна ўжываецца ў пераважнай большасці славянскіх і іншых еўрапейскіх моваў). Камісія мае намер звяртацца таксама да станоўчага вопыту стваральнікаў БелСЭ, да здабыткаў тэрмінатворчае дзейнасці 20-х гадоў. Шмат якія з гэтых здабыткаў не сталіся фактам мовы не таму, што, як часам сцвярджаецца, былі няўдалыя, а з прычыны гвалту і здзеку, учыненых з нашае мовы ў часы сталіншчыны.

На пасяджэнні былі вызначаныя прыярытэтныя кірункі ў дзейнасці камісіі, створаныя групы кансультантаў і рэдагавання, у склад якіх увайшлі вядомыя мовазнаўцы і літаратары. Паступілі першыя заяўкі ад аўтараў-складальнікаў будучых слоўнікаў.

Падзяляючы ў асноўным прынцыпы і падыходы Навукова-тэрміналагічнае камісіі 20-х гадоў, Тэрміналагічная камісія Таварыства беларускай мовы ў пэўным сэнсе лічыць сябе яе наступніцаю, і, па сутнасці, будзе працягваць яе справу.

* * *

Намеснікамі старшыні камісіі абраныя Павел Міхайлаў і Алесь Гуркоў.

Камісія запрашае да супрацоўніцтва навукоўцаў, літаратараў, журналістаў, настаўнікаў, усіх ахвотных. Неабходную інфармацыю па пытаннях арганізацыі працы, сувязі з кансультантамі і г. д. можна атрымаць у Алеся Гуркова па тэлефоне 34-42-78 (Менск).

# ПРАЗ МЕЖЫ

**З розных куткоў свету далятаюць да нас вестачкі ад суродзічаў, у якіх яны выказваюць падтрымку Таварыству, паведамляюць пра намер стварыць у сваім асяроддзі суполкі ТБМ і прапануюць канкрэтную дапамогу. Дзякуем шчыра ўсім, хто да нас азваўся! Мы і надалей будзем вельмі радыя навязаць кантакты з беларусамі ў свеце. Сёння мы проста не маем права на раз'яднанасць. Пішыце!**

**Вось колькі ўрыўкаў з дасланых нам лістоў:**

*Вельмі Паважанае Таварыства Беларускай Мовы!*

*Чытаючы беларускую газэту ў Амэрыцы, я даведаўся, што можна мець кантакты з ТБМ, і я гэтым цікаўлюся, бо мову беларускую і люблю і разумею больш і яна дае мне больш веды, бо трохі знаю расейскую і польскую, але беларуская мне мілей і даходзіць да розуму. Як будзе выходзіць Ваша выданьне з друку, калі ласка, не абмініце і мяне.*

*З найлепшымі пажаданьнямі*

*К. ВЕРАБЕЙ, ЗША.*

*...Усю інфармацыю пра ТБМ, якая друкуецца ў ЛіМе, я чытаю, бо гэтую газэту выпісваю ня толькі я, але шмат хто з нашай грамады. Шчыра дзякую за Статут! У ім я прачытаў, што ТБМ мае свой нумар валютнага рахунка. Будзьце ласкавы, дайце мне нумар гэтага валютнага рахунка ТБМ у Беларускім рэспубліканскім банку і адрас гэтага банка, каб я мог пераказваць свае гадавыя складкі ў т-ва і афяры непасрэдна ў далярах...*

*З пашанаю і шчырым прывітаньнем*

*Антон ДАНІЛОВІЧ, ЗША.*

Шчырая падзяка спадару А. Даніловічу ад Бібліятэкі ТБМ за дасланыя кніжкі; што да валютнага рахунку, дык яго Таварыства, на жаль, яшчэ не мае. Як толькі дачакаемся — адразу паведамім у «Нашым Слове».

*...Ад шчырага сэрца і з вялікім ды радасным усхваляваньнем я, Алесь Алехнік, вітаю падзею самога арганізаваньня і падтрымоўваю дзейнасьць і мэты Таварыства Беларускай Мовы...*

*Мова і Гісторыя былі, ёсць і заўсёды будуць жыццядайчай кроўю кожнага народу, і будзе Слава ўсім Беларускім патрыётам, каторыя сваёй цяжкай і ахвярнай працай здабылі права на ўтварэньне ТБМ, дзейнасьць і пасяховае асягненьне мэтаў якой, я не маю сумніву, прывядзе да поўнага адраджэньня і новага, лепшага ды вольнага жыцця Беларускай Дзяржавы.*

*Усе дзеткі Маці-Беларусі, нягледзячы на мейсца пражываньня і дзяржаўнае прыналежаньне, павінны зрабіць усё магчымае, каб забяспечыць жыццё сваёй Маткі — а будучыня развяжа ўсе пытаньні, што тычацца палітычных сытуацыяў ці перакананьняў, і я як поўнапраўны грамадзянін Аўстраліі падаю Вам сваю руку супрацы за лепшую будучыню Беларусі.*

*Народжаны на Палессі ў 1929 годзе і апынуўшыся на эміграцыі пасля 2-й Сусветнай Вайны, я ад самых юнацкіх гадоў таксама ўключыўся і надалей бяру ўдзел у грамадзкай працы па ўсведамленьні чужынцаў (адсутнасьць веды пра Беларусь была катастрафальнай) пра Беларусь і гэтым самым, хаця ў невялічкай меры, быць дапамогай Беларускаму народу ў змаганьні за справядлівасць і лепшую будучыню.*

*З пашанай*

*Алесь АЛЕХНІК, Аўстралія.*

Сяргей ШУПА, сябра Камісіі ТБМ па сувязях з суродзічамі за мяжою.




Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.

Бюлетэнь выходзіць раз на месяц. Выданне безганарарнае.

МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка». Наклад 10 000. Заказ 2175.